


КААПЭРАЦЫЙНЫХ ЦЭНТРАУ БССР,
БЕЛСЕЛЬБАНКУ І ЎСЕКАБАНКУ

ВЕРАСЕНЬ

№ 11

1929

МЕНСК

# ЗЬМЕСТ

*Стар.*

Пралетары ўсіх краёў, злучайцеся!



# КААПЭРАЦЫЯ Б. С. С. Р.

ДВУХТЫДНЁВЫ ОРГАН
КААПЭРАЦЫЙНЫХ ЦЭНТРАЎ БССР,
БЕЛСЕЛЬБАНКУ і ЎСЕКАБАНКУ

ПАД РЭДАКЦЫЯЙ
АЛ. КРАСОЎСКАГА, МАТУСЭВІЧА,
ТУМАСА, Г. ХАСКІНА і А. ФРЫДА

ПЕРШЫ ГОД ВЫДАНЬНЯ

## № 11

ВЕРАСЕНЬ

МЕНСК — 1929

А. Плышэўскі

# За сваячасовы збор плацяжоў па пазыках! На барацьбу з пратэрміноўкаю пазык!

Пратэрміноўка пазык сельска-гаспадарчым крэдытным таварыствам з боку іх пазычальнікаў ёсьць адзін з адмоўных момантаў працы гэтых таварыстваў.

Тыя ўмовы унівэрсалізму, у якіх увесь час працавалі і яшчэ пакульшто працуюць сель-гасп. крэдытныя таварыствы, але ад якіх яны цяпер вызваляюцца, разам з іншымі прычынамі прывялі да таго, што пратэрміноўка пазык таварыствам з боку сялянства зрабілася як бы „бытавым“ зьявішчам, і горш за ўсё, што яна не сустракала да гэтага часу даволі рашучага адпору с боку некаторых кіруючых і практычных працаўнікоў на месцах, да гэтага зьявішча меліся нейкія „прымірэнчыя“ адносіны.

Дзякуючы гэтаму, мы маем па пачатковай сель.-гасп. крэдытнай сетцы БССР паступовы і даволі значны рост астачы пратэрмінаваных пазык на балянсе па гадох, што відаць з наступных лічбаў:

| Д А Т А | Сума астачы пратэрмін. пазыкі | % росту | Процант іх да астачы ўсіх пазык на балянсе |
|---|---|---|---|
| На 1/X-1925 г. | 252,0 | 100 | 9,8 |
| На 1/X-1926 г. | 517,0 | 205 | 8,3 |
| На 1/X-1927 г. | 827,0 | 328 | 7,9 |
| На 1/X-1928 г. | 882,0 | 350 | 5,1 |
| На 1/VII-1929 г. | 992,0 | 400 | 5,0 |

Ужо з гэтых лічбаў мы заўважваем ня толькі агульны рост сумы пратэрмінаваных пазык, але і павялічэньне тэмпу гэтага росту за апошні 1928-29 г., у той час, калі за папярэдні 1927-28 г. гэтага росту бадай ня было. Гэта адна з абставін, якая павінна прыцягваць да гэтага зьявішча нашу асаблівую ўвагу.

Аднак, калі мы прасочым за дынамікаю пратэрміноўкі пазык т-вам на працягу году, то мы павінны будзем канстатаваць шэраг новых момантаў, якія паказваюць на шкодніцтва ў дачыненьні да сацыялістычнага будаўніцтва тых працаўнікоў, якія нядбайна, прымірэнча адносяцца да барацьбы з партэрміноўкаю пазык.

Дынаміка гэта па сетцы сель-гасп. крэдытных т-ваў БССР за апошнія гады была наступная:

| ГАДЫ | Сума астачы пратэрмінаваных пазык у тыс. руб. на пачатак кожнага кварталу | | | | | % росту сумы астачы пратэрмінаваных пазык па кварталах, прымаючы за 100 суму да пачатку году | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | 1/X | 1/I | 1/IV | 1/VII | 1/X | 1/X | 1/I | 1/IV | 1/VII | 1/X |
| 1925-26 г. | 252 | 272 | 397 | 390 | 455 | 100 | 108 | 157 | 155 | 181 |
| 1926-27 г. | 517 | 741 | 659 | 612 | 827 | 100 | 144 | 130 | 118 | 160 |
| 1927-28 г. | 827 | 1319 | 699 | 603 | 882 | 100 | 160 | 84 | 73 | 107 |
| 1928-29 г. | 882 | 2100 | 1168 | 992 | — | 100 | 238 | 132 | 114 | — |

З аналізу гэтых лічбаў мы бачым, што пачынаючы з 1926-27 г. штогод, як раз у пэрыод найбольшае грашовасьці сялянскіх гаспадарак (кастрычнік-люты), у які рэалізуецца прадукцыя сельскае гаспадаркі, а таксама ёсьць шэраг заробкаў (лесараспрацоўкі і да т. п.), пратэрмінаваныя пазыкі буйна ўзрастаюць і дасягаюць выключна высокіх лічбаў, пры чым гэта тэндэнцыя, як відаць,з кожным годам выяўляецца ўсё выразней, а сума пратэрміновак на адпаведны тэрмін (1/I) амаль падвойваецца, і калі ў наступаючым годзе ня будуць прыняты самыя рашучыя меры барацьбы з пратэрміноўкаю пазык, дык гэта сума можа выразіцца ў трох і больш мільёнах р.

Такім чынам сель-гасп. пазыкі, якія прыносілі вялікую карысьць дзяржаве, удзельнічаючы ў вытворчым працэсе і памнажаючы прадукцыю сельскае гаспадаркі, калі яны ня ўзыскваюцца ў тэрмін і застаюцца пасьля тэрмінаў у таваравытворцы, пачынаюць прыносіць народнай гаспадарцы вялізарную шкоду: з аднаго боку, павялічваючы ў насельніцтва вольныя грашовыя сродкі, яны зьнішчаюць стымул на збыт апошнім свае сель-гасп. прадукцыі, чым паслабляюцца і могуць быць падарваны плянавыя дзяржаўныя нарыхтоўкі, а з другага боку, яны за кошт дзяржаўных сродкаў павялічваюць плацежаздольны попыт сялянства на прадукты прамысловасьці, што парушае роўнавагу на рынку з усімі цяжкасьцямі, што вынікаюць адсюль.

Ня менш балюча адбіваецца пратэрміноўка пазык і на крэдытнай сыстэме. Па-першае, затрымліваюцца сродкі, якія ў плянавым парадку павінны быць накіраваны ў новыя вытворчыя працэсы, на дапамогу гаспадаркам сацыялістычнага тыпу і бядняцка-серадняцкім гаспадаркам у найбольш адказны момант—веснавую пасеўкампанію, па другое, масавая пратэрміноўка пазык парушае фінансавае становішча самога с.-г. крэдытнага таварыства—робіць яго неаплатным, і банкі бываюць прымушаны спыніць яму дачу сродкаў, і, такім чынам, з-за нядобрасумленных пратэрміноўшчыкаў уся сельская гаспадарка раёну альбо сельсавету застаецца без крэдытнае дапамогі.

Вось тыя акалічнасьці, якія прымушаюць глядзець на справу барацьбы з пратэрміноўкаю пазык, як на важнейшую агульна-дзяржаўную гаспадарчую задачу, да актыўнага ўдзелу ў якой павінны быць прыцягнуты на месцах, апроч органаў сыстэмы с.-г. крэдыту, усе дзяржаўныя ўстановы, партыйныя, каапэрацыйныя і розныя грамадзкія арганізацыі. Тут важна яшчэ падкрэсьліць і тое, што пратэрміноўка пазык т-вам мае месца і з боку калгасаў і іншых каапэрацыйных аб'яднаньняў,сялянскіх таварыстваў узаемадапамогі і іншых грамадзкіх арганізацый, што служыць дрэнным прыкладам для індывідуальных гаспадарак.

Той факт, што кампанія 1928-29 году, ня гледзячы на ўсю рашучасьць дадзеных зьверху ўстановак, дала ў параўнаньні з 1927-28 годам шмат горшыя вынікі (у 1927-28 г. на 1/VII-28 г. у параўнаньні з 1/X-27 г. мы мелі зьніжэньне пратэрміновак на 224 т. руб., альбо на 28 проц., сёлета-ж на 1/VII-29 г. у параўнаньні з 1/X-28 г. мы маем рост пратэрмінаваных пазык на 118 тыс. руб., альбо на 14 проц.), абавязвае ўсе гэтыя арганізацыі і ўстановы, і сель-гасп. крэдытныя т-вы асабліва, падыйсьці да ліквідацыі пратэрміновак у новым 1929-30 годзе больш рашуча, каб іх зусім зьнішчыць і перайсьці да новае сыстэмы працы (выключна крэдытнае дзейнасьці) бяз гэтае цяжкае спадчыны.

У якім жа напрамку і якім шляхам неабходна неадкладна і рашуча разгарнуць працу, каб дасягнуць пэўных вынікаў?

Тут практыка мінулых гадоў дае шмат мэтадаў працы, якія патрэбна толькі выкарыстаць поўнасьцю. Асноўным мэтадам працы акрсельбанкаў будзе шэраг мерапрыемстваў па ўзмацненьню ў сель-гасп. крэд. т-ваў стымулаў для барацьбы з пратэрміноўкамі:

1. Катэгарычнае патрабаваньне ад т-ваў сваячасовае сплаты акрсельбанкам сваіх тэрміновых плацяжоў і недапушчэньне іх пратэрміновак.

2. Недапушчэньне пагашэньня т-вамі тэрміновых плацяжоў акрсельбанкам за рахунак атрымліваемых нанова займаў і перапіскі пазык.

3. Таварыствам, у якіх нездавальняюча ідзе ўзысканьне тэрміновых плацяжоў і пратэрміновак, зачыняць крэдыт, сваячасова паведамляючы аб гэтым РВК і сельсаветы і абвяшчаючы аб гэтым у мясцовым друку.

4. Праз інспэктарскі апарат інструктаваць на месцы т-ва аб пастаноўцы гэтае працы, дамагчыся ў кожным т-ве арганізацыі пэўнага апарату, які-б вёў і адказваў выключна за гэту працу, пакольні таварыствы пакуль што будуць працаваць яшчэ ва ўмовах унівэрсалізму.

5. Праз гэты-ж апарат, а таксама шляхам справаздачнасьці, пэрыодычнае пастаноўкі дакладаў т-ваў на праўленьнях акрсельбанкаў, сачыць за ходам працы і выкананьнем дырэктыў т-вамі.

6. Пэрыодычная інфармацыя аб становішчы пытаньня ў акруговых дырэктыўных і кіруючых органах і нагляданьне за тым, каб справе гэтай актыўна дапамагалі іншыя арганізацыі (сельсаюз, калгассаюз, КСТУ, органы НКЮ, НКУС і г. д.)

На месцах, у сель-гасп. крэдытных т-вах, праца павінна арганізоўвацца ў наступных напрамках:

1. Арганізацыя апарату, які-б вёў гэту працу і меў тэхнічную магчымасьць яе выканаць.

2. Мерапрыемствы па шырокай інфармацыі пазычальнікаў аб плацяжох, а таксама інфармацыі і прапагандзе праблемы ў цэлым, сярод усяго насельніцтва і арганізацыі навакол яе грамадзкае думкі.

3. Мерапрыемствы арганізацыйнага і грамадзкага ўзьдзейнічаньня на пазычальнічаў у сэнсе неабходнасьці с ваячасовага, а пры магчымасьці і датэрміновага, пагашэньня пазык.

4. Мерапрыемствы па прымусоваму ўзысканьню пазык з пратэрміноўшчыкаў.

5. Арганізацыя нагляданьня і кантролю за працаю ўсяго апарату, які павінен праводзіць гэту працу, з боку раённых дырэктыўных і кіруючых органаў.

Па першаму пункту—арганізацыя апарату—неабходна:

а) у кожным т-ве абавязкова выдзеліць сябра праўленьня або іншага працаўніка, які-б найбольш падыходзіў для гэтай працы, які быў бы зволен ад усякае іншае працы і нагрузкі і вёў бы працу выключна па мабілізацыі сродкаў насельніцтва (узысканьне тэрміновых і пратэрмінаваных пазык, збор паёў, прыцягненьне ўкладаў і да т. п.);

б) было-б мэтазгодна пры т-вах скласьці з прадстаўнікоў усіх адпаведных устаноў і арганізацый камітэты садзейнасьці т-ву ў справе мабілізацыі сродкаў насельніцтва;

в) у кожнай вёсцы павінен быць абраны ўпаўнаважны па дапамозе т-ву ў гэтай справе;

г) было-б вельмі важна, каб у кожным с/савеце на пэрыод кастрычнік-сакавік быў выдзелены адзін член с/савету, які-б вёў справу мабілізацыі сродкаў насельніцтва;

д) РВК павінны зрабіць справу мабілізацыі сродкаў насельніцтва роўналежнай з іншымі заданьнямі ўсяго хлебанарыхтоўчага апарату, апарату па ўзысканьню сель-гасп. падатку і да т. п.;

е) гэта праца павінна на гэты пэрыод стаць аднэй з асноўных у плянах работ усіх мясцовых партыйных і грамадзкіх арганізацый;

Па другім пытаньні—інфармацыі і прапагандзе задачы неабходна ўжываць наступнае:

а) абавязковая заўчасная дасылка кожнаму пазычальніку абвесткі аб усіх яго плацяжох т-ву ў пэрыод кастрычніка-красавіка месяцаў наступаючага году, а таксама другое абвесткі перад наступленьнем кожнага тэрміну плацяжу;

б) выпісваньне сьпісаў партэрміноўшчыкаў па асобных вёсках і с/саветах у некалькіх паасобніках (3-4) і рассылка іх па с/саветах і ўпаўнаважаным т-ваў;

в) практыку плянавых дакладаў на вёсках, шляхам выездаў членаў праўленьняў т-ваў, у хатах-чытальнях, на сходах і зьездах аб значэньні сваячасовае і датэрміновае сплаты пазык;

г) асьвятленьне пытаньня ў друку, насьценгазэтах і да т. п.

Найбольш адказнаю трэба лічыць трэцюю групу мерапрыемстваў, па арганізацыі грамадзкае ўзьдзейнасьці на пратэрміноўшчыкаў; сюды адносяцца;

а) найбольшая дысцыплінаванасьць у гэтым напрамку кліентуры нашага сацыялістычнага сэктару (калгасаў, спэцвідаў сель-гасп. каапэрацыі, СТУ і г. д.), агітацыя іх сярод індывідуальных гаспадарак паказам, прыкладам, шляхам сваячасовага пагашэньня сваіх пазык т-ву, для чаго павінны быць адпаведнымі органамі прыняты рашучыя меры;

б) ня менш адказная роля падае на пазычальнікаў-беднякоў, якія павінны стаць таксама прыкладам крэдытнае дысціплінаванасьці для астатніх груп пазычальнікаў.

Па лініі груп і сходаў беднаты і іншых адпаведных арганізацый у гэтым напрамку неабходна правесьці вялікую працу, з тым, каб праз беднату рабіць уплыў на іншыя групы пазычальнікаў, складаць адмоўную думку да пратэрміноўшчыкаў з боку грамадзкасьці і дамагацца па магчымасьці сваячасовае сплаты пазык пазычальнікамі-беднякамі;

в) арганізацыя ў гэтым пытаньні сацыялістычнага спаборніцтва паміж т-вамі, с/саветамі, вёскамі, калгасамі, СТУ і спэцвідамі сель-гасп. каапэрацыі пры дзейным удзеле ў ім груп і сходаў беднаты шмат дапаможа справе і ўсьведамленьню імі задач мабілізацыі сродкаў;

г) вывешваньне сьпісаў пратэрміноўшчыкаў, абгаварэньне іх на сходах, групах беднаты і да т. п., узьдзейнасьць на пратэрміноўшчыкаў праз насьценныя газэты і да т. п.

д) недапушчэньне выдачы новых пазык і іншых відаў дапамогі па розных галінах пратэрміноўшчыкам пазык.

Нарэшце, пасьля ўсіх гэтых мерапрыемстваў, неабходна са ўсёю рашучасьцю, арыентуючыся на асноўныя нашы клясавыя ўстаноўкі, ужываць да пратэрміноўшчыкаў чацьвертую групу мерапрыемстваў, прымусовае ўзысканьне пратэрміновак праз суд. Тут неабходна адзначыць, як дадатны момант, тэхнічнае спрашчэньне парадку ўзысканьня, які зараз мае быць зацьверджаны СНК БССР—надпіс нарсудоў аб узысканьні непасрэдна на абавязацельстве. Другім важным актам зьяўляецца абежнік НКЮ БССР № 60 ад 4/IX-1929 г. усім акруговым судом і нарсудом і акрпракурорам аб пазачарговым разглядзе спраў у паказальным парадку як на злосных неплацельшчыкаў, так і на службовых і іншых асоб, якія нядбайна адносяцца да справы ўзысканьня пазык.

Нарэшце, посьпех справы будзе забясьпечаны толькі тады, калі мясцовыя кіруючыя органы (РВК) возьмуць гэту працу пад сьціплы нагляд і пэрыодычна будуць правяраць яе выкананьне адпаведнымі органамі і асобамі і рашуча будуць ужываць да тых, хто ня выконвае гэтых дырэктыў, вышэйпамянёны абежнік НКЮ БССР. У гэтых мэтах РВК павінны: а) заслухоўваць не радзей 1 разу ў месяц даклады праўленьняў сель-гасп. крэд. таварыстваў і сваіх упаўнаважаных аб ходзе працы з канкрэтнымі лічбамі; б) пэрыодычна не радзей аднаго разу ў квартал, у мэтах праверкі

працы і абмену вопытам, склікаць нарады старшынь і кіраўнікоў гэтае працы усіх с.-г. крэд. т-ваў раёну; в) у тых-жа мэтах с.-г. крэд. т-вы павінны ў сябе пэрыодычна склікаць нарады праўленьня, савету і рэўкамісіі, з удзелам с/саветаў, груп беднаты, упаўнаважаных т-ва і інш.

На жаль, сёньня мы яшчэ маем прыклады, калі некаторыя РВК не аддаюць гэтаму пытаньню дастатковай увагі (Чавускі РВК адмовіў праўленьню Чавускага сель-гасп. крэдытнага т-ва ў інфармацыі па гэтым пытаньні на пленуме РВК і да т.п.).

Само сабою зразумела, што разгортваньне барацьбы за сваячасовае пагашэньне пазык, барацьбы з пратэрміноўкамі іх павінна не паслабляць, а ўзмацняць мерапрыемствы па мабілізацыі сродкаў насельніцтва іншымі спосабамі—шляхам узысканьня паявых і спэцыяльных узносаў прыцягненьня ўкладаў, узысканьня няправільна выдадзеных і няправільна скарыстаных пазык, разьвіцьця фондавых апэрацый і да т. п.

Маючы на ўвазе ўсю важнасьць пытаньня мабілізацыі сродкаў насельніцтва ў сыстэме сель-гасп. крэдыту, з пункту погляду выкананьня плянавых лічбаў першага году пяцігодкі,з пункту погляду разьвіцьця важнейшых гаспадарчых пытаньняў (нарыхтоўкі і да т. п.) і наяўнасьць магчымасьцяў для пасьпяховага яго выкананьня (добры ўраджай г. г.), можна мець упэўненасьць, што задача будзе выканана з большаю пасьпяховасьцю, як гэта было летась, пры умове калі ўсе адпаведныя ўстановы з сур'ёзнасьцю возьмуцца за гэту справу.

---

С. К-аў

# Шляхі падвышэньня і сацыялістычнае перабудовы сельскае гаспадаркі Беларусі

## Два шляхі падвышэньня сельскае гаспадаркі

Распыленасьць і дробнасьць сялянскае гаспадаркі і поўнатуральны яе характар, пры нізкім узроўні сельска-гаспадарчае тэхнікі і культуры, паслужылі асноўнымі прычынамі празьмернага адставаньня сельскае гаспадаркі ад тэмпу разьвіцьця прамысловасьці, паслужылі некаторымі крыніцамі цяжкасьцяй у харчовых адносінах і ў нарыхтоўках сыравіны, асабліва ў сувязі з хуткім ростам патрэбнасьці ў іх у выніку бурнага росту нашае прамысловасьці.

Вось чаму цэлы шэраг рашэньняў партыйных зьездаў, а асабліва XV партыйнага зьезду і XVI партыйнае канфэрэнцыі УсеКП(б) прызналі неабходным правядзеньне найстойлівае і сыстэматычнае работы па рэканструкцыі сельскае гаспадаркі і стварэньні буйнага грамадзкага земляробства (калгасаў і саўгасаў), якое змагло-б разьвівацца на падставе высокае тэхнікі пры аднначасовым падтрыманьні разьвіцьця і падвышэньня індывідуальных бядняцкіх і серадняцкіх гаспадарак.

Да кастрычнікавае рэвалюцыі існавалі буйныя абшарніцкія капіталістычныя гаспадаркі, у якіх бязьлітасна эксплёатавалася праца батрацтва і бяднейшага сялянства. Рэвалюцыя зьнішчыла і абшарнікаў і іх гаспадаркі. Звароту да кулацкае і абшарніцкае гаспадаркі ў пралетарскай краіне ня можа быць і ня будзе, і адзіны шлях разьвіцьця буйнае, тэхнічна-удасканаленае гаспадаркі ёсьць шлях арганізацыі саўгасаў і калгасаў.

## Першыя крокі калектывізацыі

З першых-жа дзён пасьля Кастрычнікавае рэвалюцыі ідэалам і лёзунгам камуністычнае партыі па пытаньні разьвіцьця сельскае гаспадаркі зьяўлялася арганізацыя калектыўных форм вядзеньня сельскае гаспадаркі. Першыя калгасы ў БССР пачалі стварацца ў хуткім часе пасьля Кастрычнікавае рэвалюцыі. Аднак, грамадзянская вайна, разруха і г. д. не давалі магчымасьці партыі і савецкай уладзе зьвярнуць належную ўвагу на правільнае разьвіцьцё калгаснага руху, і ён спачатку прымаў часам некалькі ненармальныя формы (сабезаўскія настроі першых калгасаў, засьмечанасьць варожымі элемэнтамі, вялікая цякучасьць складу іх, ядоцкая форма аплаты працы і г. д.). Усё гэта ў значнай частцы кампрамэтавала ідэю калектывізацыі перад шырокімі масамі сялянства. На Беларусі калгасны рух пачаўся са значным спазьненьнем, як і ў іншых рэспубліках СССР. Нямецкая і польская акупацыя, а потым зацяжны бела-бандытызм затрымлівалі культурны і гаспадарчы рост краіны, а таксама і калгаснае будаўніцтва на вёсцы. Калі ва ўсходніх акругах першыя калгасы пачалі ствараца яшчэ ў 1919 годзе, то ў іншых акругах яны ствараліся толькі ў канцы 1920 і ў пачатку 1921 году. Першыя калгасы арганізоўваліся ў цэнтрах былых абшарніцкіх гаспадарак, і толькі ў апошні час калгасы пачалі арганізоўвацца на працоўных надзельных сялянскіх землях.

Буйны рост калектывізацыі ў БССР пачаўся не раней, як $1^1/_2$—2 гады таму назад. Ня гледзячы на колькасны рост калгасаў, у першы час калгасны рух меў цэлы шэраг недахопаў, з якіх найбольш важнымі зьяўляліся наступныя: 1) значная колькасьць дробных калектыўных гаспадарак, 2) іх гаспадарча-эканамічная слабасьць, 3) слабая прадукцыйнасьць гаспадаркі і малая вытворчасьць працы членаў, 4) слабы тэмп індустрыялізацыі і машынізацыі калгасаў, 5) неналежнасьць унутранага парадку і г. д.

## Уздым калектыўнага руху селёта

Пачаўшыся непасрэдна пасьля XV зьезду УсеКП(б), бурны рост калгаснага руху з кожным годам усё больш і больш узмацняецца; старая сетка калгасаў, што налічвала 440 калгасаў (на 1/X-27 г.), з агульнаю плошчаю ў 58.000 га, у 1928 г. дала прырост калгасаў да 994, з агульнаю плошчнаю зямельных ужыткаў у 94.450 га. Гэта складала сярэдні разьмер 1 калгасу ў 95 га.

За 10 месяцаў 1928-29 г. вырасьлі новыя 576 калгасаў. Агульная плошча ўсіх калгасаў ужо складае 237.113 га, з сярэднюю плошчаю на 1 калгас—153,2 га (павялічэньне на 161,2 проц.).

У мэтах разьвіцьця і ўзмацненьня будаўніцтва калектыўных гаспадарак камуністычная партыя Беларусі і ўрад пастанавілі зьвярнуць асаблівую ўвагу на адбудову і ўзмацненьне калгасаў, якія існуюць, на ўзьняцьце рашучага курсу на арганізацыю больш буйных новых калгасаў, а таксама на ўзбуйненьне старых калгасаў.

Шырока разгорнутае селёта (з 1/X-28 г. па 1/VIII-29 г.) калгаснае будаўніцтва, пры ўсё большай прагавітасьці бядняцка-серадняцкае масы вёскі да калектывізацыі, перавысіла ўсе плянавыя меркаваньні. Гэты рух пачаў набываць новыя, яшчэ ня бачаныя дагэтуль формы.

Стваяюцца буйныя калгасы, якія робяцца сапраўднымі базамі для вытварэньня таварнае сельска-гаспадарчае сыравіны і хлебнымі фабрыкамі.

На 1/VIII-29 г. па БССР налічваецца 77 буйных калгасаў з плошчаю зямлі ад 500 і звыш га, у тым ліку 22 калгасы-гіганты ў 1000, 2000, 3000 і 4000 га.

Адначасова праводзіцца значная работа па ўзбуйненьні старых калектыўных гаспадарак як шляхам зьліваньня некалькіх сумежных дробных гаспадарак у вадну больш буйную, так і шляхам узбуйненьня гэтых калгасаў праз далучэньне да іх цэлых вёсак, пасёлкаў і паасобных груп бядняцка-серадняцкага сялянства. Сёлета зьліваньнем 46 калгасаў стварылася 23 больш буйныя гаспадаркі. Апроч таго, узбуйнена 128 старых калгасаў на 16.684 га.

Адначасова калгаснае будаўніцтва пачало набываць масавы характар. Ужо зараз намеціліся раёны калектывізацыі на спрэс як, напрыклад, Клімавіцкі раён, Магілеўскае акругі, дзе калектывізацыяй ахоплена да 14 проц. усяе замельнае плошчы ў той час, калі ў сярэднім па БССР ахоплена калектывізацыяй толькі каля 3 проц. зямель. У цэлым шэрагу сельскіх саветаў Ручаеўскім (Гомельшчына), Пуцімельскім і Савініцкім (Магілеўшчына) і іншых—ахоплена калектывізацыяй ад 35 да 75 проц. сялянскіх гаспадарак і зямельнае плошчы гэтых сельсаветаў.

## Клясавая барацьба на вёсцы

Такі шырокі рух калектывізацыі бядняцка-серадняцкіх мас асабліва абвастрыў клясавую барацьбу на вёсцы, выклікаў надзвычайную злосьць кулацтва і яго адкрытае выступленьне супроць калгасаў.

Кулакі ідуць на розныя ашуканствы, правакацыю, пагрозы. Калі гэта не дае належнае ўзьдзейнасьці, кулакі ня спыняюцца і перад тэрарыстычнымі актамі: сёлета імі зроблена 9 падпалаў маёмасьці калгасаў і ўступаючых у калгасы сялян, 5 адкрытых нападаў на калгасныактыў, 6 пабояў калгасьнікаў і іх дзяцей, зьнішчэньне і калецтва калгаснае жывёлы, зрыў земляўпарадкаваньня: адмаўляюцца даць рабочую сілу каморніку і г. д.

Усё гэта выклікае неабходнасьць з боку савецкіх, партыйных, камсамольскіх, каапэрацыйных і іншых грамадзкіх арганізацый павесьці энэргічную работу па мабілізацыі бядняцка-серадняцкіх мас, каб даць рашучы адпор кулацтву і каб уцягнуць у калгасы батрацкія, бядняцкія і серадняцкія масы вёскі з адначасоваю чысткаю калгасаў ад пранікшых у іх кулацкіх элемэнтаў і барацьбой з ілжэ-калгасамі.

Асноўная маса калгасьнікаў цяпер батрацка-бядняцкая (звыш 59 проц.) і серадняцкая (звыш 38 проц.) заможная праслойка ў калгасах каля 2 з паловай проц.

У апошнія 2 гады наглядаецца ўсё большае і большые ўцягваньне ў калгаснае будаўніцтва цэнтральнае фігуры вёскі—серадняка, які ў саюзе з беднатою і батрацтвам вядзе пасьпяховае наступленьне на кулака і сапраўдна на справе ажыцьцяўляе дырэктывы партыі і савецкае ўлады аб рэканструкцыі і сацыялістычнай перабудове сельскае гаспадаркі.

## Культпраца і дапамога беднаце

Калгасы ў сучасны момант зьяўляюцца сапраўднымі культурнымі вогнішчамі на вёсцы, цэнтрамі агрыкультурнае машынізаванае сельскае гаспадаркі.

Калгасы перабудоўваюць нашу адсталую, старую вёску, унядраючы новы быт, арганізоўваючы культурна-бытавыя ўстановы, што садзейнічаюць вызваленьню жанчыны—калгасьніцы. З гэтаю мэтаю зарганізавана ў калгасах 62 дзіцячых пляцоўкі, 94 ясьляў, арганізоўваюцца школы і г. д.

Культурны ўзровень калгасьнікаў і іх культурныя запатрабаваньні значна вышэй, чым у звычайнага селяніна з вёскі альбо пасялкоўца. Вось чаму ў калгасах арганізоўваюцца розныя культурныя ўстановы. Так, паводле няпоўных вестак, у калгасах БССР ёсьць 110 бібліотэк, 20 хат-чытален, 74 клюбы, 102 чырвоныя куткі, 114 радыёўстановак з гучна гаварыцелямі і інш.

З прычыны большае сьвядомасьці калгасьнікаў калгасы першымі на вёсцы пашлі ўсьлед за рабочымі арганізацыямі, прыняўшы ўдзел у сацыялістычным спаборніцтве. Магутная хваля спаборніцтва ўжо ахапіла звыш 300 калгасаў Беларусі, якія шпаркімі крокамі ідуць па шляху ўзмацненьня свае гаспадаркі, падвышэньня ўраджайнасьці, памяншэньня каштоўнасьці прадукцыі і г. д.

Калгасы робяць вялікі ўплыў на ваколічнае сялянства, зьяўляюцца для яго прыкладам культурнага вядзеньня гаспадаркі, садзейнічаючы ўнядрэньню ў сялянскую гаспадарку агрыкультурных прыёмаў. Апроч таго, калгасы аказваюць непасрэдную дапамогу сялянству, даючы яму палепшанае і гатунковае насеньне, абслугоўваючы вытворцамі, складанымі сельска-гаспадарчымі машынамі, распаўсюджваючы сярод сялянскіх гаспадарак маладняк палепшанае і заводзкае жывёлы-жарабят, цялят, парасят і г. д. У пэрыод восенскае і веснавое пасеўнае кампаніі калгасы аказваюць дарэмную дапамогу інвэнтаром, рабочаю сілаю і іншымі сродкамі вытворчасьці бядняцкім гаспадаркам, гаспадаркам удоў і слабым чырвонаармейскім сем'ям. Гэтым калгасы вызваляюць гэтыя гаспадаркі ад эканамічнае залежнасьці ў кулацтва і наогул садзейнічаюць узмацненьню бядняцкае гаспадаркі.

## Вытворчае каапэраваньне--шлях да масавае калектывізацыі

Калгасы Беларусі маюць значныя асаблівасьці ў параўнаньні з калгасамі іншых савецкіх рэспублік. Беларускія калгасы маюць рознастайны нацыянальны склад, а таксама характарызуюцца надзвычайнаю складанасьцю сваіх форм. З ліку 1570 старых і новых калгасаў – 1293 беларускіх калгасаў, 249 яўрэйскіх, 22 польскія, 4 латыскія, 1 кітайскі і 1 цыганскі.

У той час, калі ў іншых рэспубліках СССР маюць пераважнасьць прасьцейшыя калектыўныя формы (таварыствы па супольнай апрацоўцы зямлі) над больш складанымі формамі, па Беларусі—як раз наадварот. Так з 994 калгасаў, што існавалі на I/X—28 г. таварыстваў па супольнай апрацоўцы зямлі было толькі 13,3 проц, сельска-гаспадарчых арцеляй—76,8 проц. і сельска-гаспадарчых камун – 6,9 проц. З нанова арганізаваных у 1928-29 годзе 576 калгасаў (на I/VIII-29 г.) пераважная колькасьць—звыш 90 проц.—сельска-гаспадарчыя арцелі. Трэба адзначыць, што ступень абагуленьня маёмасьці і сродкаў вытворчасьці ў беларускіх арцелях значна вышэй, як у іншых рэспубліках, і гэтыя арцелі бадай нічога асаблівага ня маюць у параўнаньні з камунамі.

Паколькі мы зараз маем зусім іншыя тэмпы калектывізацыі, чым раней (за апошнія 2 гады арганізавана больш калгасаў, чым за першыя 8 год), і паколькі пяцігадовым плянам калектывізацыі прадугледжана не паслабленьне, а, наадварот, значнае ўзмацненьне гэтага тэмпу—неабходна стварыць найбольш спрыяльныя ўмовы, якія садзейнічалі-б масавай калектывізацыі сялянскіх гаспадарак. Асноўнымі ўмовамі для гэтага зьяўляецца вытворчае каапэраваньне сялянскае сельскае гаспадаркі ў прасьцейшыя вытворчыя аб'яднаньні малочныя, семенаводныя, ягадныя, мэліорацыйныя, машынныя і інш.

Абагуленьне аднаго альбо некалькіх працэсаў вытворчасьці зьяўляецца моцным стымулам калектывізацыі, і просты няўхільны шлях усіх прасьцейшых вытворчых аб'яднаньняў гэта перарастаньне ў вышэйшыя формы калектывізацыі--сельска-гаспадарчыя арцелі і камуны.

Рэзкі

# Каго каапэраваць у смалярныя арцелі

Смалярства ва ўмовах лясістае Беларусі мае шмат магчымасьцяй для шырокага разьвіцьця.

Але тут адразу паўстае пытаньне, як у далейшым разгортваць гэтую прамысловасьць: ці шляхам пабудовы дзяржаўных смалярань, арганізацыяй арцеляй, альбо, можа, дапамагаць пабудове смалярных катлоў саматужнікаў-адзінак.

Ні першае, ні апошняе ня выгодна з пункту погляду задач, якія стаяць перад нашаю прамысловасьцю. У пэрыод рэканструкцыі нашае гаспадаркі, калі вялізарныя сродкі ідуць на буйную індустрыю, бясспрэчна, ня выгодна дзяржаве распыляць сродкі на дробную саматужную вытворчасьць, якую, на вялікі жаль, нельга мэханізаваць. Тыя заводы, якія ёсьць цяпер пад ведамам РВК, часта зьяўляюцца стратнымі. Заахвочваньне пабудовы катлоў саматужнікамі-адзінкамі таксама не дапушчальна. А таму, адзіны шлях—гэта арганізацыя арцеляй, пры тым ня карлікавых, а больш буйных. Але шлях арганізацыі і ўзбуйненьня смалярных арцеляй надзвычайна цяжкі, з ім даводзіцца часта сустракацца ўжо цяпер. Нездавальняючы сацыяльны склад членаў сучасных смалярных арцеляй, вялікі процант з іх пазбаўлены выбарчых правоў—былыя ўладары смалярань.

Адсутнасьць цягі ў смалярныя арцелі з боку батрацтва на вёсцы і местачковае беднаты тлумачыцца неарганізаванасьцю працы.

Пытаньнем рацыяналізацыі гэтае вытворчасьці сур'ёзна не займаліся. Для прыкладу возьмем гісторыю Смалявіцкае смалярнае арцелі „Аб'яднаная праца“, яна арганізавалася з 2 катлоў з Смалявіцкага камітэту ўзаемадапамогі. На чале арцелі стаіць старшыня Смалявіцкага райкамітэту ўзаемадапамогі, які з мэтаю ўзбагаціць арцель прыцягваў у яе былых уладароў, а ў выніку атрымалася каапэраваньне ў кавычках. Члены, якія знаходзяцца ў арцелях, дзе засталіся былыя ўладары, фактычна зьяўляюцца, як і раней, работнікамі, таму што шмат былых уладароў стаяць на чале смалярань. Тут трэба ўжыць заходы да таго, каб аслабаніцца ад былых уладароў заводаў і, апрача таго, палепшыць становішча працы на заводах, і тады можна будзе спадзявацца на ўцягненьне ў працу іх батрацтва і местачковае беднаты.

---

С. Кудзінаў

# Папярэднія вынікі дню калектывізацыі ў БССР

Вялікі пачын Ленінградзкага пралетарыяту, падхвачаны ўсёю рабочаю клясаю Савецкага Саюзу, даў краіне саветаў важнейшую тычку ў будоўлі сацыялізму. Гэтая тычка—гістарычны дзень 6 жніўня, дзень індустрыялізацыі. Гэты дзень па ўзмацненьні пабудовы сацыялізму зьявіўся адказам усяе рабочае клясы Савецкага Саюзу на выпады капіталістычных драпежнікаў.

Бядняцка-серадняцкая частка вёскі—верны саюзьнік рабочых: яна поўнасьцю падтрымоўвае лінію партыі пры ажыцьцяўленьні генэральнае лініі ў напрамку шпаркае індустрыялізацыі краіны і сацыялістычнае рэканструкцыі нашае сельскае гаспадаркі шляхам магутнага разгортваньня саўгаснае і калгаснае будоўлі.

Гэта бядняцка-серадняцкая частка вёскі ў час пасьпяховага і рашучага наступленьня на кулака з свайго боку высунула прапанову, падхопленую мільённымі масамі сялянства, аб правядзеньні дню калектывізацыі. Гэты дзень, дзень 28 жніўня, прайшоў на Беларусі ва ўмовах надзвычайнага разгортваньня калгаснага руху. У дзень калектывізацыі ўвага ўсіх працоўных Беларусі была завострана навакол такіх асноўных задач нашае сельскае гаспадаркі, як яе падвышэньне, далейшая будоўля і разьвіцьцё па сацыялістычным шляху.

У гэты дзень уся грамадзкасьць гораду і вёскі, усе партыйныя, савецкія і каапэрацыйныя арганізацыі, на чале з рабочымі брыгадамі, пайшлі ў калгасы, каб правесьці на вёсцы вялікую работу па ўзмацненьні калгаснага руху на Беларусі, каб зрабіць адзіным фронтам наступленьне на хутар, на кулацтва, на гнілыя формы старое дзедаўскае сельскае гаспадаркі.

Гэты грамадзкі паход даў новую парамогу на фронце калгаснае будоўлі, уцягнўшы ў справу рэканструкцыі нашае сельскага гаспадаркі шмат новых вёсак, сотні і тысячы новых сялянскіх гаспадарак.

Паводле няпоўных вестак ад 6 акруг, па БССР у дзень калектывізацыі арганізавана 103 новыя калгасы на плошчы 30819 га, у тым ліку 9 калгасаў на плошчы ад 500 да 1000 га і 3 буйныя калгасы з плошчаю звыш 1000 га кожны.

Гэта відно з наступнае табліцы:

| НАЗВА АКРУГІ | Арганізавана новых калгасаў | На агульнай плошчы зямлі ў га | У тым ліку арганізавана калгасаў | | Сярэдняя плошча новых калгасаў |
|---|---|---|---|---|---|
| | | | На плошчы ад 500 да 1000 га | На плошчы звыш 1000 га | |
| Полацкая | 13 | 1839 | — | — | 141,4 га |
| Бабруйская | 12 | 3225 | 1 | — | 268,7 „ |
| Аршанская | 25 | 8065 | 3 | 1 | 322,6 „ |
| Менская | 29 | 8449 | 5 | 2 | 291,3 „ |
| Гомельская | 3 | 1400 | — | — | 466,6 „ |
| Віцебская | 21 | 7841 | — | — | 373,2 „ |
| Усяго па 6 акругах | 103 | 30819 | 9 | 3 | 299,2 га |

Нанова арганізаваныя ў дзень калектывізацыі калгасы маюць добраякасны бок у сэнсе даволі значнай сярэдняй плошчы, што прыпадае на 1 калгас.

Апроч арганізацыі новых калгасаў, у дзень калектывізацыі было праведзена ўзбуйненьне шэрагу старых калгасаў за кошт далучэньня вакольных сялянскіх гаспадарак з агульнаю плошчаю зямлі ў 6733 га.

Па Менскай і іншых акругах ёсьць выпадкі далучэньня ў дзень калектывізацыі да калгасаў цэлых вёсак. Так, напрыклад, да калгасу імя Сталіна (Чэрвеньскага раёну) далучылася вёска Очапы, з 80 гаспадарак; да калгасу імя Абрамовіча (Капыльскага раёну) далучылася вёска Ўсава з 64 гаспадарак і г. д.

Таксама мы маем выпадкі, калі 16 калектыўных гаспадарак, каб стаць мацнейшымі, зьліліся ў дзень калектывізацыі ў 8 больш буйных гаспадарак.

Такім чынам, у дзень калектывізацыі на Беларусі пад калектыўнымі гаспадаркамі ўжо знаходзіцца звыш 275000 га зямельнае плошчы, замест 94450 га, што налічваліся на 1/X-1928 г.

Вось які адказ дало бядняцка-серадняцкае сялянства Беларусі на ўсе спробы нашых апартуністых затрымаць калгаснае будаўніцтва. Яно за 10 месяцаў 1929 году стварыла 679 новых калгасаў, яно стварыла моцныя бядняцка-серадняцкія кадры калгасьнікаў. Праслойка сераднякоў-заможнікаў, што ёсьць у калгасах, вельмі нязначная—каля 2%. Кулакоў у калгасах няма. Яны—ворагі калгаснае будоўлі, і калі пранікаюць у калгас, то толькі для таго, каб шкодзіць, зьнішчаць.

У дзень калектывізацыі сотні адказных партыйных і прафэсійных працаўнікоў акруг і цэнтру выехалі ў вёску; шэраг рабочых брыгад з сотнямі рабочых у гэты дзень пайшлі дапамагаць калгаснай будоўлі.

У Полацкай акрузе было складзена 5 брыгад рахункаводаў з гарадзкіх установаў, у ліку 19 асоб, якія выяжджалі ў калгасы акругі і праводзілі інструктаванньне па вядзеньні рахункаводзтва і гэтым зрабілі значную практычную дапамогу калгасам.

У дзень калектывізацыі калгасы, як перадавы авангард вёскі, маючы на ўвазе лёзунг „ніводнага калгасу бяз 3-й пазыкі індустрыялізацыі“, зрабілі вялікую падпіску на пазыку. Адны толькі калгасы Полацкае і Аршанскае акругі падпісаліся на 21830 рублёў. Усе-ж калгасы Беларусі павінны даць і дадуць дзяржаве шмат дзесяткаў тысяч і сотняў тысяч рублёў на ўзмацненьне індустрыялізацыі нашае краіны.

У гэты-ж дзень сотні чырвоных абозаў з калгасаў БССР здалі дзяржаве шмат тысяч пудоў хлеба. Калгасы аднаго толькі Клімавіцкага раёну (Магілеўскае акругі) здалі ў дзень калектывізацыі 4000 пудоў жыта. Столькі-ж хлеба здалі дзержаве калгасы і Аршанскае акругі.

На жаль, агульная колькасьць зданага ў гэты дзень калгасамі хлеба яшчэ не падлічана.

Шэраг калгасаў у дзень калектывізацыі засеялі шмат „дзесяцін індустрыялізацыі“. Іншыя калгасы ў гэты дзень памаглі бедняцкім гаспадаркам; апрацавалі ім зямлю, пажалі жняяркамі ўраджай і гэтак далей.

Дзень калектывізацыі прайшоў па Беларусі пры вялікім уздыме усіх працоўных мас гораду і вёскі. Ён зьявіўся новым крокам на шляху шчыльнае змычкі мас калгаснікаў і рабочае клясы. У гэты дзень рабочыя арганізацыі заводаў і фабрык Беларусі ўзялі шэфства над новымі дзесяткамі і сотнямі калгасаў.

Ва ўсіх калгасах у дзень калектывізацыі былі праведзены ўрачыстыя агульныя сходы, у шэрагу калгасаў былі пастаўлены спэктаклі, былі арганізаваны карнавалы і інш.

У дзень калектывізацыі былі падведзены вынікі калгаснае будоўлі на Беларусі, былі ўцягнуты ў калгасны рух новыя тысячы працоўнага сялянства на падставе ўзмацненьня вытворчае змычкі гораду з вёскаю, былі створаны новыя і ўзмоцнены старыя калгасы і вытворчыя каапэрацыйныя аб‘яднаньні.

У далейшым дзень калектывізацыі павінен адначасова стаць і днём падвядзеньня вынікаў і ацэнкі вопыту нашае працы ў галіне падвышэньня ўраджайнасьці, разьвіцьця жывёлагадоўлі і ўнядрэньня ў масавую сельскую гаспадарку дасягненьняў агранамічнае навукі і тэхнікі, а ў асаблівасьці ў абагуленым сэктары сельскае гаспадаркі.

Дзень калектывізацыі павінен стаць адным з важнейшых бытавых сьвятаў нашае вёскі.

# ПРАКТЫКА НАШАЕ ПРАЦЫ

Г. Хаскін

## Хлебанарыхтоўчая кампанія і роля спажывецкае каапэрацыі ў ёй

У бягучую хлебанарыхтоўчую кампанію быў своечасова ўнесен цэлы шэраг удасканаленьняў, больш выразна вызначана роля кожнага нарыхтоўцы, своечасова дадзены былі асноўныя ўстаноўкі і пляны загатовак (праўда, пляны трохі пазьней былі удасканалены). На вопыце недахопаў леташняга году дадзены дырэктывы аб недапушчэньні іх паўтарэньня ў бягучай нарыхтоўчай кампаніі. Асаблівая ўвага зьвернута на падрыхтоўку нарыхтоўчага апарату як у арганізацыйных, так і ў тэхнічных адносінах, як-та: правядзеньне растлумачальнае кампаніі, падрыхтоўка грамадзкасьці, праверка прыгоднасьці працаўнікоў, складных памяшканьняў, тары і г. д. Роўным чынам дадзена выразная дырэктыва аб тэрмінах сканчэньня кампаніі (а гэта вельмі абавязвае ўвесь нарыхтоўчы апарат зьнізу даверху). Нарэшцэ, дырэктыва аб давядзеньні плянаў нарыхтовак да сяла. Пагэтаму будзе зусім правільна, калі мы з усёй вастратою (пакуль яшчэ ня позна) паставім пытаньне, а ці ўсё зроблена загатоўчым апаратам для выкананьня гэтых дырэктыў, дадзеных нам нашай партыяй і ўрадам? Ці ацэнена ў дастатковай меры палітычнае і эканамічнае значэньне гэтых дырэктыў.

Нам здаецца, што будзе правільна, калі скажам, што што-небудзь з гэтых дырэктыў знаходзіцца яшчэ ў стадыі абгаварэньня, у стадыі гутарак і спрэчак аб усялякіх „аб'ектыўных прычынах“, немагчымасьці выкананьня іх і г. д., што дастатковае праверкі нізавога апарату, наколькі ён падрыхтованы, як гэтага патрабуе партыя, ня зроблена. Пагэтаму ня лішнім будзе яшчэ раз зьвярнуць увагу на неабходнасьць з усёю сілаю націснуць на праверку выкананьня вышэйпамянёных дырэктыў, не забываючыся ні на адну хвіліну на дырэктыву партыі „ніякіх рахункаў на самацёк, скончыць працу ў час“. У нас, у БССР, у бягучую хлебанарыхтоўчую кампанію мы ўступаем са значна падвышаным хлебанарыхтоўчым плянам. Гэта тлумачыцца, па-першае, лепшым ураджаем і, па-другое, больш поўным вучотам таварнага хлеба. Адсюль выцякае неабходнасьць узяцьця такіх высокіх тэмпаў ў працы, якія забясьпечылі-б поўнае выкананьне хлебанарыхтоўчага пляну і абавязкова ў устаноўленыя тэрміны. Гэта будзе магчыма толькі у тым выпадку, калі наша грамадзкасьць будзе актывізавана так, каб яна ў сапраўднасьці зьявілася рашучым фактарам у пасьпяховасьці выкананьня гэтае задачы. Бяз гэтага мы гэтых высокіх тэмпаў ня вытрымаем. У перадавіцы ад 2/VIII кіруючага органу нашае партыі „Праўда“ мы па гэтым пытаньні чытаем наступнае: „Неабходныя высокія тэмпы ў нарыхтоўках могуць быць забясьпечаны толькі пры ўмове напружанае працы ўсяе нашае грамадзкасьці пад неаслабным кіраўніцтвам партыі“.

Яшчэ вельмі важны момант, што мае немалаважнае значэньне ва ўсіх адносінах да новай нарыхтоўчай кампаніі,—гэта пытаньне ўвязкі працы ўсіх нарыхтоўцаў, каб ухіліцца ад шкоднае, нікому непатрэбнае канкурэнцыі, што іграе на руку нашаму клясаваму ворагу—нэпману і кулаку.

А на практыцы мы ведаем, што ў пагоне за знадворнымі, нікому непатрэбнымі эфэктамі забываюцца дырэктывы партыі, траціцца ўсякае партыйнае чуцьцё да такое важнае ў палітычных адносінах кампаніі, і наносіцца вялізарная шкода усёй кампаніі. Небясьпека гэтае канкурэнцыі ў сучасны момант асабліва паглыбляецца тым, што клясавы наш вораг, асабліва у пэрыод нарыхтоўчае кампаніі, з усёю сілаю будзе на нас наступаць і лезьці ў самыя малюсенькія шчэлінкі. У тэй-жа перадавіцы „Праўды“ ад 21 жніўня мы чытаем: „Не агульныя рэзалюцыі, не адпіскі патрэбны нам, а сапраўдна актыўная і зьвязаная між сабою праца усіх органаў пад неаслабным кантролем партыі“, і далей: „спэцыяльную ўвагу трэба зьвярнуць на ўсе зьявішчы канкурэнцыі і ажыётажу паміж нарыхтоўцамі. Самыя строгія меры пакараньня павінны быць ужыты да асоб, якія дапусьцілі гэтыя нездаровыя зьявішчы. Нарыхтоўцаў, якія сваімі дзеяньнямі робяць шкоду ўсёй справе хлебанарыхтовак, трэба безадкладна зьнімаць з працы і аддаваць пад суд“ (падкрэсьлена намі).

Усё гэта неабходна са ўсёю сур'езнасьцю ўлічыць для таго, каб у працы была ўзята сапраўды правільная партыйная лінія.

На спажывецкую каапэрацыю падае найбольш адказная і цяжкая задача пры выкананьні пляну хлебанарыхтовак. З агульнае масы хлебанарыхтовак, прызначаных да паступленьня ад індывідуальных сялянскіх гаспадарак,—70 проц. падае на спажывецкую каапэрацыю, а нарыхтоўка ад індывідуальных гаспадарак і зьяўляецца найбольш адказнаю і цяжкаю задачай, бо клясавая барацьба з асаблівай вастратою будзе разгортвацца менавіта на гэтым вучастку нарыхтоўчага фронту. Гэта становішча абавязвае ўсю сыстэму спажыўкаапэрацыі асабліва ўважліва і сур'ёзна адносіцца на працягу ўсяго нарыхтоўчага пэрыоду да гэтай кампаніі і да абсалютна выразнае лініі ў працы. Рашучае значэньне для пасьпяховага выкананьня пляну нарыхтовак па спажыўсыстэме маюць грамадзкія мэтады працы. Зьяўляючыся аднэй з вялікіх магутных грамадзкіх арганізацый у вёсцы, спажыўкагпэрацыя павінца ўмець зарганізаваць грамадзкасьць так, каб усе цяжкасьці былі пераможаны, каб адпор кулацкаму наступу быў дадзены са ўсёю сілаю праз гэту грамадзкасьць.

Неабходна дамагчыся праз грамадзкасьць поўнага вучоту таварнасьці хлеба ў розных групах сялянскіх гаспадарак. Асаблівая ўвага грамадзкасьці павінна быць зьвернута на ўстанаўленьне разьмераў нарыхтовак у кулацкіх і заможных гаспадарак. Тут неабходна зрабіць усё для таго, каб поўнасьцю ахапіць таварны хлеб у гэтых гаспадарак, устанаўліваючы канцовыя і абмежаваныя тэрміны здачы для іх. Неабходна таксама мабілізаваць увагу грамадзкасьці да таго, каб на працягу ўсяе кампаніі паралізаваць усялякія спробы кулака прадаваць хлеб на прыватным рынку, вядучы з гэтым рашучую барацьбу, ужываючы ўсялякія мэтады грамадзкага уплыву, каб лішкі хлеба гэтае групы былі поўнасьцю здадзены дзяржаве ў вызначаныя тэрміны. Вялікую ролю ў гэтай кампаніі павінен адыграць каапэрацыйны актыў. Трэба абавязкова, не на словах, а на самай справе дамагчыся самага актыўнага ўдзелу ў гэтай працы каапактыву; кожны актывісты павінен быць сапраўдны і актыўным арганізатарам і правадыром задач, якія стаяць перад кампаніяй. Будзе зусім мэтазгодна, калі з ліку каапэрацыйнага актыву будуць створаны спэцыяльныя падкамісіі па садзейнасьці нарыхтоўкам (тым самым дапамагаючы камісіям пры сельсаветах), спэцыяльныя ўпаўнаважаныя з актывістых і г. д. Пагэтаму пытаньне па ўцягненьню бядняцка-серадняцкае часткі вёскі ў нарыхтоўчую кампанію, арганізацыі каапактыву дзеля гэтае мэты—ёсьць адна з асноўных задач пры правядзеньні ўсяе хлебанарыхтоўчае кампаніі.

Пытаньні калектыўнае здачы, арганізацыя „чырвоных абозаў“ павінны быць у цэнтры ўвагі каапэрацыйных арганізацый. Да гэтага найважнейшага мерапрыемства павінна быць прыкута ўвага ўсяе грамадзкасьці і ў першую чаргу ўвага каапэрацыйнага актыву. Па разьмерах калектыўнае здачы і арганізацыі „чырвоных абозаў“ трэба судзіць, наколькі паказаны грамадзкі актывісты сапраўды прымае ўдзел у гэтай кампаніі.

Спажывецкая каапэрацыя на месцах, пры актыўнай садзейнасьці бядняцка-серадняцкіх мас, павінна шырока разгарнуць працу па сацыялістычнаму спаборніцтву па здачы хлеба ня толькі паміж асобнымі сёламі, але давесьці гэта спаборніцтва да асобных гаспадарак.

Спажывецкая каапэрацыя, зьяўляючыся асноўнай арганізацыяй, што забясьпечвае працоўнае насельніцтва хлебам, павінна шырока паставіць растлумачальную працу сярод бядняцка-серадняцкае масы і усяе вясковае грамадзкасьці, што ад пасьпяховага правядзеньня пляну загатовак у шмат чым залежыць рэгулярнае забесьпячэньне хлебам беднаты і другіх працоўных катэгорый. Нашы рабочыя каапэратывы павінны ў гэтым годзе прыняць значна большы ўдзел ва ўсёй гэтай кампаніі, трэба мабілізаваць увагу рабочага актывістага каапэрацыі да гэтае кампаніі. Арганізацыя спэцыяльных брыгад з рабочага каапактыву гораду, пасылка гэтых брыгад у вёску на дапамогу спажывецкаму таварыству будзе мець вялізарнае значэньне ва ўсіх адносінах. Пагэтаму рабочым каапэратывам трэба зараз-жа добра падумаць, як лепш арганізаваць свой удзел і ўдзел каапактыву ў гэтай найважнейшай кампаніі. Адно з вялікіх месц у нарыхтоўчай працы займае таваразабесьпячэньне насельніцтва. Трэба сказаць, што сёлета мы будзем мець некалькі больш таварных фондаў як летась асабліва дэфіцытных, для забесьпячэньня насельніцтва. Перад спажывецкаю каапэрацыяю, паколькі праз яе канавы, праходзіць уся таварная маса да спажыўца, стаіць вялікая і адказная задача правільна разьмеркаваць гэтыя тавары, сваячасова завезьці іх да спажыўца. Недахопы, якія мелі месца ў мінулым пры завозе і разьмеркаваньні прамтавараў, павінны быць рашуча зьнішчаны. Асаблівая ўвага павінна быць завострана на правільным правядзеньні лініі партыі яе клясавай вытрыманасьці. Неабходна мець на ўвазе, што правільнасьць лініі ў працы па забесьпячэньню вёскі прамтаварамі наогул і, ў асаблівасьці ў пэрыод хлебанарыхтовак, садзейнічае ўзмацненьню змычкі рабочае клясы з асноўнымі масамі сялянства, садзейнічае яшчэ большаму павялічэньню кантрактацыі і ўзмацненьню калектывізацыі вёскі. Трэба са ўсёю сілаю весьці барацьбу з праяўленьнямі выпадкаў простага тавараабмену. Трэба павесьці рашучую барацьбу з усялякімі спробамі абыйсьці бедняка, абыйсьці серадняка, з якім зроблена ўмова на кантрактацыю хлеба ці другога віду сыравіны пры разьмеркаваньні дэфіцытных тавараў. Трэба пры кожным праяўленьні такіх выпадкаў, бязьлітасна выключаць з каапэрацыйнага апарату ўсе чужыя элемэнты, усіх тых, хто скажае лінію партыі, хто проста ці ўкосна аслабляе нашы пазыцыі ў гэтай важнай кампаніі. Пры такіх выпадках ня можа быць ніякіх гутарак, што, моў, загатоўчая кампанія ў разгары, пагэтаму зьняць гэту асобу, што псуе ўсю нашу лінію, нельга, моў, кампанія праваліцца і г. д. Лепш няхай некаторы час будзе пустое месца. Толькі так, а ня інакш можа стаяць пытаньне.

І тады мы будзем пэўны, што лінія будзе правільная, і посьпех кампаніі забясьпечаны.

Б$_А$ 1220

Бд 1220

**Кацнэльсон**

# Аб пастаноўцы справаздачнасьці і кадрах рахунковых працаўнікоў у прам. каапэрацыі

Трэба прызнаць, што эфэктыўнасьць плянавае работы сам.-прам. каапэрацыі ў значнай ступені залежыць ад якасьці справаздачных матар'ялаў, проценту іх паступленьня і сваячасовасьці іх прадстаўленьня нізоўкаю саюзам, а апошнімі цэнтру. Адным з найбольш слабых бакоў сыстэмы дагэтуль зьяўляецца пастаноўка вядзеньня справаздачнасьці па нізовай сетцы і пытаньне аб кадры рахунковых работнікаў, якія гэту справаздачнасьць вядуць.

З практыкі аналізу справаздачнасьці зьвяртаюць на сябе ўвагу наступныя моманты.

Якасьць справаздач, што даюцца, неаднолькавая і ў значнай ступені зусім нізкая, паказвае на неспрактыкаванасьць, няпісьменнасьць працаўнікоў. У многіх выпадках часткова або зусім адсутнічаюць статыстычныя весткі; колькасьць выпрацаванае прадукцыі, продаж вырабаў, сабекошт прададзеных вырабаў. Балянсавыя весткі ня сходзяцца з статыстычнымі дадзенымі, адсутнічае шэраг рахункаў, як-та: продажу, вынікаў. Бывае, што актыў ня сходзіцца з пасывам, а выніковымі рахункамі зьяўляюцца рахункі матар'ялаў і вытворчасьці.

Гэтыя прыклады яскрава паказваюць на няпісьменнасьць працаўнікоў, што складаюць такія справаздачы. Пастаноўка справаздачнасьці ў гарадзкіх арцелях яшчэ больш-менш здавальняючая: працаўнікі лепей, прамсаюз блізка, і відзён больш нагляд. Але галоўная бяда з арцелямі і т-вамі ў раённых і вясковых мясцовасьцях. Там цяжка знайсьці добрых працаўнікоў, і часта даводзіцца такую працу выконваць „дапатопным" бухгальтэрам або па спосабу „сумяшчальнасьці" рахункаводам спажывецкіх і кр. с.-г. т-ваў, справаводам РВК і сельсаветаў і настаўнікам; зразумела, што апошнія не знаёмы з пастаноўкаю справаздачнасьці ў прам. каапэрацыі і вытворчай бухгальтэрыяй наогул або зусім ня ведаюць, што такое бухгальтэрыя. Рэдка арцелі маюць рахункаводаў, што спэцыяльна працуюць у арцелях, і нават у такіх выпадках гэткія маюць па 2, 3 і 4 арганізацыі.

Даволі часта ў выніку такое пастаноўкі наглядаюцца выпадкі злоўжываньняў, растрат, дэфіцыту і ліквідацыі арцеляй. Акрамя гэтага, значны процант арцеляй зусім ня мае справаздачнасьці, па прычыне слабае сувязі рахункаводаў з арцелямі або іх перагрузкі бывае запазьненьне прадстаўленьня справаздач саюзу і праз гэта несваячасовая прысылка зводных справаздач Белсампрамсаюзу.

Вышэйсказанае падкрэсьліваецца дадзенымі па 130 нізавых арганізацыях Магпрамсаюзу.

| АРГАНІЗАЦЫІ. | Агульны лік арганізацый | | З іх вядуць справаздачн. | | Маюць уласн. рахункаводаў | | Наймаюць па сумяшчальн. | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | Лік | % | Лік | % | Лік | % | Лік | % |
| Гарадзкія | 24 | 100 | 24 | 100 | 17 | 70,0 | 7 | 30,0 |
| Раённыя | 106 | 100 | 89 | 84 | 20 | 22.5 | 69 | 77.5 |
| Разам | 130 | 100 | 113 | 86 | 37 | 32,8 | 76 | 67,2 |

З іх можна бачыць, што ўсяго вядзецца справаздачнасьць на 86 проц. усяе сеткі. Уласных працаўнікоў маюць толькі 32,8 проц. арганізацый, з якіх гарадзкіх—70 проц., а раённых—22,5 проц. Дапушчаюць працу па сумяшчальнасьці ў горадзе—30 проц., а ў раёне—77,5 проц. ўсіх арганізацый.

Становішча справаздачнасьці і кадру працаўнікоў павінна дзеля гэтага зьвярнуць на сябе сур'ёзную ўвагу, у асаблівасьці ў раёнах, бо нездавальняючая пастаноўка справаздачнасьці і адсутнасьць кадру неабходных рахунковых працаўнікоў адлюстроўваецца на становішчы сеткі ў раёнах, дзе ёсьць ўжо шмат буйных арцеляй. У сваю чаргу гэта выклікае несваячасовае і ненармальнае прадстаўленьне справаздач.

Поруч з прычынамі, што залежаць ад месцаў, на пастаноўцы справаздачнасьці нізоўкі адлюстроўваецца таксама адсутнасьць інструкцый і паказаньняў з боку БКПС. Ёсьць толькі адзінкавыя паказаньні па калькуляцыі некаторых промыслаў. Няма выпрацаваных мэтадаў і форм калькуляцыі. Адсутнічаюць друкаваныя інструкцыі, якіх на мясцох чакаюць, патрабуюць, але ў адказ нечага ім даць.

Для вырашэньня гэтага пасьпелага пытаньня саюз пробаваў пасылаць у раёны рахункаводаў з гораду, але на гэта мала хто згаджаецца, каб палепшыць адзінае кіраўніцтва, практыкуецца некаторымі раёнамі цэнтралізацыя бухгальтэрыі ўсіх арцеляй пры к.-прам. т-вах. Але гэта мерапрыемства выклікаецца не мэтазгоднасьцю, а толькі недастачаю спрактыкаваных працаўнікоў.

Для ліквідацыі гэтых дэфэктаў, на мой погляд, неабходна:

1. Белсампрамсаюзу наладзіць адзінае кіраўніцтва рахунковаю справаю ў нізоўцы; выпрацаваць ім агульныя інструкцыі па вядзеньню рахункаводзства ў арцелях, іншыя формы, як калькуляцыя, касавыя ведамасьці і інш., надрукаваць і разаслаць па ўсёй сыстэме.

2. Падрыхтаваць кадры новых працаўнікоў для сеткі прам. каапэрацыі, адкрыўшы спэцыяльныя курсы пры акр. саюзах з мястачковае і вясковае моладзі, якую лягчэй затрымаць на месцы, чым тых, што пасылаюцца з гораду ў раёны.

Таксама трэба павысіць кваліфікацыю старых рахункаводаў на гэтых курсах.

3. Колькасьць неабходных работнікаў павінна вызначацца патрэбаю сеткі, выходзячы з кантрольных лічбаў.

---

Карповіч

# Больш увагі каапэрацыйнаму страхаваньню

Неабходнымі ўмовамі пасьпяховага разьвіцьця ўсяе нашае народнае гаспадаркі, а разам з тым і перабудовы неабагуленага сэктару яе на сацыялістычны лад зьяўляюцца ня толькі наяўнасьць волі і энэргіі ўсяе рабочае клясы і ўсяго працоўнага сялянства, але і мабілізацыя і правільная арганізацыя іх.

Найлепшаю арганізацыйнаю формаю перабудовы парцаляваных сялянскіх гаспадарак у буйныя фабрыкі с.-г. культур і жывёлы, індустрыялізацыі ўсяе сельскае гаспадаркі, аб'яднаньня і пераводу на машынную працу нашых саматужнікаў зьяўляецца каапэрацыя.

Гэта бясспрэчна. Гэта запісана ў рэзалюцыях вышэйшых партыйных савецкіх органаў, і кожны ўдзельнік сацыялістычнага будаўніцтва лічыць патрэбным дапамагаць каапэрацыйнаму руху.

Каапэрацыйнае страхаваньне зьяўляецца часткаю каапэрацыйнага руху і існуе, як выключэньне з манаполіі дзяржаўнага страхаваньня (пастанова ЦВК і СНК СССР ад 18-9-25 г.).

Каапэрацыйнае страхаваньне заснавана і існуе самастойна (асобна ад Дзяржстраху) з прычыны таго, што яно павінна выконваць ня толькі задачы агульнага страхаваньня, але яшче і дапамагаць каапэрацыі ў выкананьні пастаўленых перад ёю задач. Гэтыя задачы каапэрацыйнае страхаваньне і выконвае як арганізацыйна так і фінансава, бо па першае:

Каапэрацыйнае страхаваньне пабудована так, што яно ня мае свайго асобнага апарату. Прадстаўнікамі каапэрацыйнага страхаваньня (яго агэнцтвамі і суб'агэнцтвамі) зьяўляюцца саюзы каапэрацыі (ёсьць субагэнцтвы і пры куставых аб'яднаньнях калгасаў), дзякуючы чаму каапэрацыйнае страхаваньне ня толькі набліжаецца да нізавых каапэрацыйных арганізацый праз інструктарскі апарат, але як інстытут цэнтралізаваны арганізацыйна ўвязвае ўсе зьвенчакі сыстэмы ў адно суцэльнае, што асабліва важна для нашых маладых сыстэм каапэрацыі, як калгасная, сельска-гаспадарчая нагогул, саматужна-прамысловая, жыльлёвая, інвалідная і інш. Акрамя таго, такая арганізацыйная пабудова дае магчымасьць саюзам ня толькі сваячасова ведаць аб навальнай бядзе, што здарылася ў таго ці іншага яго сябра, але і ўжываць зараз-жа адпаведныя мерапрыемствы арганізацыйнага і фінансавага характару, скажам, у выпадку эпізоотыі жывёлы ў тым ці іншым калгасе. Дзякуючы гэтай яго арганізацыйнай пабудове накладныя выдаткі каапэрацыйнага срахаваньня значна ніжэй накладных выдаткаў Дзяржстраху.

Па-другое, каапэрацыйнае страхаваньне страхавую прэмію, якую яно зьбірае захоўвае яе спачатку ў саюзах, а потым у каапэрацыйным банку і тым самым узмацняе фінансавае становішча каапэрацыі.

Ня лішне ўспамянуць, што каапэрацыйнае страхаваньне стварыла фонд на агнятрывалае каапэрацыйнае будаўніцтва і такім чынам праводзіць прэвенцыйную працу.

Каапэрацыйным страхаваньнем праводзіцца балянсавае страхаваньне па спажывецкай сыстэме каапэрацыі і саюзаў вытворчай каапэрацыі.

На чарзе дню стаіць пытаньне правядзеньня балянсавага страхаваньня і па сыстэмах вытворчае каапэрацыі. Прынцыпова пытаньне вырашана. Нізавы зьвянчак вытворчае каапэрацыі і асобныя яго арганізацыі будуць пераходзіць на балянсавае страхаваньне па меры іх станаўленьня як каапэрацыйных арганізацый і ў прыватнасьці па меры наладжваньня ў іх рахункаводзтва. Трэба адзначыць, што балянсавае страхаваньне цалком адкідае парадак, што існаваў да гэтага, часу афармленьня страхаваньня, запазычаны з практыкі капіталістычных акцыянэрных таварystваў да рэвалюцыйнага часу, і само зьяўляецца мерапрыемствам сацыялістычнага пара..ку.

Балянсавае страхаваньне поўнасьцю апраўдвае арганізацыйную пабудову і існаваньне самастойнага каапэрацыйнага страхаваньня, бо яно яшчэ больш узмацняе яго перавагі і яшчэ больш дапамагае каапэрацыі ў выкананьні яе задач па плянавай перабудове неабагуленага сэктару народнае гаспадаркі на сацыялістычны лад, бо балянсавае страхаваньне, па-першае, забясьпечвае поўную аплату сум страты пацярпеўшае каапэрацыйнае арганізацыі ад таго ці іншага навальнага ліха і тым самым забясьпечвае

плянавае вядзеньне гаспадаркі кожнай каапэрацыйнай арганізацыяй, па-другое, яно шляхам генэральных умоў (дагавораў) яшчэ шчыльней арганізацыйна ўвязвае ўсё зьвенчакі сыстэм каапэрацыі, па-трэцяе, вельмі значна спрашчае само афармленьне страхаваньня і зьніжае накладныя выдаткі яго і, па-чацьвёртае, узмацняе фінансавае становішча каапэрацыйных сыстэм і спрашчае грашовыя разрахункі паміж зьвенчакамі гэтых сыстэм.

Акрамя таго, пастанова СНК СССР, ад 4 чэрвеня г. г., прадугледжвае страхаваньне ўсяе маёмасьці каапэрацыі ў абавязковым парадку ў каапэрацыйным страхаваньні.

Усё гэта гаворыць за тое, што прынятая падкамісіяй урадавае камісіі па рэарганізацыі апарату Віцебскае акругі пастанова аб зьлітку ў Віцебскай акрузе каапэрацыйнага страхаваньня з Дзяржстрахам не мэтазгодна.

Каапэрацыйнае страхаваньне непасрэдна дапамагае каапэрацыі выконваць галоўную задачу па перабудове прыватнага сэктару на сацыялістычны лад, а ўсё тое, што дапамагае вырашэньню гэтае задачы, павінна жыць.

У бліжэйшы час па меры арганізацыі раённых саюзаў с.-г. каапэрацыі, якія будуць і прадстаўнікамі—субагэнцтвамі каапстрахаваньня, апошняе наблізіцца да нізавых каапарганізацый і тэрытарыяльна.

Акрамя таго, зараз арганізоўваюцца субагэнцтвы і пры больш буйных с.-г. крэдытных таварыствах.

На вялікі жаль, трэба адзначыць, што ня ўсе саюзы каапэрацыйных сыстэм зварочваюць аднолькава належную ўвагу на гэты ўчастак каапэрацыйнае працы. У той час, як уся спажывецкая сыстэма і ўсе яе матар'ялы каштоўнасьці забясьпечаны каапстрахаваньнем поўнасьцю на ўсе 100 проц., гэтага нельга сказаць пра сыстэмы вытворчай каапэрацыі. Але і гэта недарэчнасьць павінна быць і будзе зьнішчана ў бліжэйшы час.

---

**Рашучы адпор апартунізму. Няшчадная барацьба з правымі і прымірэнцамі, дэзэртырамі з рэвалюцыйнага фронту. Няхай жыве ленінскае адзінства УсеКПБ(б) і Камінтэрну!**

---

# НА МЕСЦАХ

С. Ладысёў

## Становішча саматужна-прамысловае каапэрацыі

(*Магілеўская акруга*)

Па ўсёй Магілеўскай акрузе налічваецца саматужнікаў 11.145 чал., з ліку якіх каапэравана ў арцелі 2003 чал. (18 проц.) і ў таварыствы 3218 чал. (29 проц.).

Арцельнае каапэраваньне па ліку саміх арцеляў больш за ўсё прыпадае на мястэчкі (21—у горадзе, 72—у мястэчках і 33 у вёсках), лік-жа арцельшчыкаў больш за ўсё прыпадае на горад (у горадзе—627, мястэчках —441 і ў вёсцы—469).

Па свайму сацыяльнаму становішчу вялікі процант займаюць саматужнікі (саматужнікі—72 проц, сяляне—15 проц. і рабочыя—8 проц.) і па нацыянальнаму складу: яўрэяў—70 проц., беларусаў—30 проц.

Валавая прадукцыя за паўгодзьдзе (1928-29 г.) складае 2.660.500 руб. супроць 1.308.000 руб. (1927-28 г.) і перавышае выпрацоўку ўсяго 1927-28 г., якая выражаецца ў 2.405.000 руб. Найбольшую ўдзельную вагу займае скураная апрацоўка (16,2 проц.), малярства (14,6 проц.), кравецкая (14 проц.) і абутковая (13 проц).

Калі-ж спыніцца на капітальных укладаньнях па ўсёй сетцы, то і тут мы маем значныя посьпехі і дасягненьні, а менавіта: калі летась гэтае ўкладаньне на 1/X-28 г. складала 375.000 руб., то ў гэтым паўгодзьдзі яно ўжо дасягнула 435.000 руб., альбо павялічэньне на 16 проц. (тут гутарка ідзе аб першым гаспадарчым паўгодзьдзі бягучага году).

Крыху слабавата абстаіць справа са спагнаньнем паявога капіталу, які узыскан толькі ў суме 168.500 руб., альбо 76 проц. да статутнага. Сярэдні паявы ўзнос складае 117 руб. Ёсьць уласных сродкаў—411.000 руб. і пазычаных 1.6 3.000 руб.

Па крэдытна-прамысловых таварыствах выдача пазык узрасла за паўгодзьдзе на 29 проц., тымчасам як поруч з гэтым укладныя апэрацыі значна панізіліся. Паявы капітал таварыстваў складае 67.344 руб., альбо 90,2 проц. ў адносінах да статутнага.

Калі спыніцца на паасобных момантах наогул праведзенае работы саматужна-прамысловаю каапэрацыяю, то яна характарызуецца наступнымі галоўнымі момантамі:

1. У сёлетнім гаспадарчым годзе, па ўсёй акрузе, была праведзена праверка сацыяльнага складу арцеляў, пры чым гэта праверка была прыстасавана к часу перавыбарчае кампаніі, у выніку выключана з арцеляў—106 чал., а каапэравана замест выключаных за лік фонду беднаты 150 чал.

2. Да гэтага году арцелі рознага віду мелі карлікавы выгляд як па ліку аб'яднаных членаў, а таксама і па выкідцы на рынак выпрацаванай прадукцыі, у сувязі з чым давялося правесьці ўзбуйненьне некаторых арцеляў, як напрыклад: абутнікаў, мэталяапрацоўчыя, смалярныя і дрэваапрацоўчыя, у выніку чаго пры агульным росьце арцеляў лік сяброў арцеляў узрос на 33 проц. і складае найбольшы рост за лік мястэчак.

3. Рэзка павялічыўся зварот саюзу з 863.000 р. у 1927-28 г. да 2.081.322 руб. з 1/X-28 г. па 1/IV-29 г., ці ў процантах—141.

Але-ж побач з пералічанымі дасягненьнямі ў працы Магілеўскага саматужна-прамысловага саюзу ёсьць і

недахопы, на якіх я тут таксама кораценька спынюся.

Калі казаць аб пастаноўцы працоўнае дысцыпліны, то трэба сказаць, што ў арцелях яна пастаўлена слабавата.

Ня так даўно Беларускі Камэрцыйны Бюлетэнь адзначаў, што некаторыя саматужныя арцелі выпушчаюць на рынак дрэннае якасьці прадукцыю і асабліва абутковую (Менскія, Віцебскія, Гомельскія і інш.), то ў гэтым не адстае і Магілеўшчына, ёсьць таксама выпадкі выпуску нізкай якасьці прадукцыі.

Хоць роля прамсаюзу і ўзрасла па збыту прадукцыі свае сеткі да 54 проц. супроць 44 проц. леташняга году, але-ж гэта недастаткова. У гэтым напрамку трэба будзе ўжыць рашучыя захады да цэнтралізаванага збыту прадукцыі сеткі праз саюз і да поўнага ахопу збыту усяе прадукцыі, што выпрацоўваецца нізоўкаю.

Ня гледзячы на павялічэньне звароту саюзу да 2.081.322 руб. з 1/X-28 г. па 1/IV-29 г. супроць 863.000 р. (на 141 проц.), зьніжэньне налажэньня на сабекаштоўнасьць на 1,1 проц. да агульнага ліку звароту і адміністрацыйных выдаткаў на 1,91 проц. супроць 2,66 проц. леташняга г. зьяўляецца вядома недастатковым: ў гэтым напрамку можна было зрабіць шмат больш, як гэта мы маем ў наяўнасьці.

Таксама, ня гледзячы на наяўнасьць па саматужна-прамысловай каапэрацыі паявога капіталу ў суме 168.500 р. уласных сродкаў—411.000 руб. і пазычковых—1.613.000 руб., грашовае становішча названае каапэрацыі застаецца ня зусім здавальняючым і напружаным, тымчасам як і ў гэтым напрамку ёсьць магчымасьць некалькі зьмякчыць вастрыню пытаньня, ужыўшы рашучыя крокі да ўнутранага паянакапленьня, прытоку укладаў і інш.

Вядома, нельга лічыць нармальным і такое зьявішча, калі прыток укладаў паменшыўся, а выдача пазык у параўнаньні з леташнім годам павялічылася на 29 проц

Недастаткова яшчэ праводзіцца плянавасьць у рабоце, слаба пастаўлен вучот, адсутнічае сталая калькуляцыя, пляны і каштарысы. Зусім недастаткова абсьледуецца і інструктуецца сетка, дзякуючы чаму мелі месца „лжэарцелі“, за якімі яшчэ да гэтага часу лічацца нядоімкі.

Нельга сказаць, што саюз ужо праведзенаю кампанейскаю чысткаю аслабаніўся ад сацыяльна-варожага нам элемэнту. Яго яшчэ шмат. Чыстку патрэбна праводзіць не кампанейскім парадкам, а мець гэта на ўвазе у сваёй штодзённай працы і вольныя месцы запаўняць беднатою.

Калі спыніцца на дапамозе саматужна-прамысловым арцелям з боку раённых выканаўчых камітэтаў і іншых арганізацый раёнаў, то аказваецца, што апошнія на іх глядзяць як на нешта другараднае; гэткія зьявішчы нам гавораць аб тым, што мясцовыя органы недаацэньваюць ролі прамысловае каапэрацыі. На мой погляд, райвыканкомам і ўсім установам раёну трэба удзяліць максымум увагі будоўлі прамкаапэрацыі, бо ва ўмовах сучаснае цяжкасьці з некаторымі прамысловымі таварамі апошнія могуць значна палегчыць напружанасьць краіны ў некаторых таварах, з аднаго боку, а з другога, мы саматужніка адзіночку прыцягваем да калектыўнае творчасьці.

Нельга абыйсьці маўчком і Белсампрамсаюз. Апошні надзвычайны часта затрымлівае на цэлы месяц тыя сродкі, які належаць Магілеўскаму прамсаюзу. Трэба зрабіць так, каб у далейшым гэткіх зьявішч з боку Белсампрамсаюзу неназіралася.

Праўленьне Магпрамсаюзу павінна заняцца і зьвярнуць сваю асаблівую ўвагу на якасьць і стандартызацыю прадукцыі, на павялічэньне ў сыстэме саматужна-прамысловае каапэрацыі вырабу прадукцыі, правільную пастаноўку калькуляцыі, дамагаючыся максымальнага зьніжэньня сабекаштоўнасьці і адміністрацыйна-гаспадарчых выдаткаў. Ужыць захады да пастаноўкі вучоту на належную ступень да большага ахопу сеці дасьледчай работаю, вытворчым інструктажам, палепшаньнем працы і становішча арцеляў, а таксама палепшыць культурна масавую работу сярод сяброў арцеляў.

С. К-і

# Дасягненьні і хібы

(*Водгук з месца*)

Вельмі хутка пачала разьвівацца малочная справа сярод насельніцтва Заслаўскага раёну. Прыблізна за два тры гады—да канца 1928 г. на тэрыторыі Заслаўскага раёну арганізавалася 10 малочных арцеляй. Праўда, большасьць з гэтых арцеляй дробныя, і да гэтага некаторыя з іх ня мелі пад сабою выразнага раёну дзейнасьці, у выніку чаго ўзьнікала паміж арцелямі канкурэнцыя і нейкі антаганізм паміж пайшчыкамі.

Гэты антаганізм і канкурэнцыя вельмі выразна сталі значнымі паміж трыма арцелямі: Чачкаўскаю, Гуцкаю і Гаранскаю, што апошнія прывяло да разбурэньня: пачалі залазіць у дэфіцыт, пайшчыкі пачалі выходзіць з прычыны таго, што танна плацілася малако, і наогул баяліся „катастрофы“.

Каб падтрымаць малочную справу, Менакрмалжывёлагадоўчы саюз парашыў некалькі драбнейшых малочных арцеляй злучыць у адну буйную. Гэта ідэя была падтрымана пайшчыкамі трох вышэйадзначаных арцеляй, і ў канцы 1928 г. усе тры гэтыя арцелі злучыліся ў адзін Слабоцкі малочны завод.

За кароткі час свайго існаваньня (якіх-небудзь 8 месяцаў) завод мае шмат дасягненьняў, хаця побач з імі ёсьць і хібы, але аб іх пазьней.

Да першага лістапада 1929 г. арцель заканчвае пабудову малочнага заводу, які будзе каштаваць каля 12 тысяч руб. Завод будзе мець усё тэхнічнае абсталяваньне для апрацоўкі малака. За гэты час значна павышана аплата пайшчыкам за малако. Калі летась улетку плацілі пайшч. за адзін проц. тлушчу малака да 2 к., а то і 1,8 кап., то сёлета, у 1929 г., у гэту самую пару малако плацілася да 2,5 кап. за адзін процант тлушчу.

Да гэтага цяпер завод аплачвае ўсе выдаткі па заводу, як, напрыклад: адпраўка масла, прывозка дроў, дастаўка корму для арцелі і інш., што не аплачвалася да аб'яднаньня і што не аплачваецца і цяпер у другіх дробных арцелях, а выконвалася і выконваецца „чаргою“ пайшчыкаў.

Таксама да аб'яднаньня ў буйную малочную арцель не вялася (дый ня было магчымасьці весьці) праца па паляпшэньні пароды кароў, а гэтак сама і па падняцьці малакаўдойнасьці кароў.

Чым гэта ўсё тлумачыцца? Адказ просты. Пасьля аб'яднаньня значна зьменшаны накладныя выдаткі. Калі да аб'яднаньня, пры заносе пайшчыкамі гэтага самага малака, былі тры старшыні, тры рахункаводы, былі ўтрое канцэлярскія выдаткі, то цяпер з гэтаю ўсёю працаю спраўляецца адзін старшыня і адзін рахункавод. Акрамя гэтага, лепш наладжан кантроль над вытворчасьцю.

Таму цяпер Слабоцкі малочны завод мае трох пародзістых быкоў і каля двух дзесяткаў закантрактаваных цялят (быкоў) у сваіх пайшчыкаў.

Гэтак сама пры заводзе ёсьць сталы аграном (жывёлагадоўнік), які вядзе сярод пайшчыкаў працу па паляпшэньні кароў.

Пры заводзе ёсьць штатны нарыхтоўшчык рознае сыравіны і жывёлы, дзякуючы чаму пайшчыкам ёсьць магчымасьць усякую жывелу і сыравіну збыць поблізу дома. Гэтым нарыхтоўшчыкам за якія-небудзь тры месяцы нарыхтавана рознае сыравіны і жывёлы на 3282 руб. 96 кап.

І гэта ўсё сьведчыць аб тым, што толькі буйным калектывам, буйнаю арцельлю можна добра і шырока разьвінуць усякую справу.

Раён дзейнасьці Слабоцкага малочнага заводу даволі значны. Ён цяпер ахапляе 47 насялёных пунктаў з лікам 918 гаспадарак і 1464 кароў.

Толькі ня зусім добра ідзе справа каапэраваньня. З усяго ліку 918 гаспадарак і 1464 кароў каапэравана:

| | Пайшчыкаў (гаспадар.) | Кароў | Узыскана паявых |
|---|---|---|---|
| Да аб'яднаньня на 1 студзеня 1929 г. . . . | 455 | 691 | 945 руб. 96 к. |
| Пасьля аб'яднаньня на 1-е жніўня 1929 г. | 498 | 824 | 1438 „ 98 „ |

Як бачым з лічбаў, насельніцтва каапэравана, прыблізна, на палову. І ў гэтым напрамку яшчэ мала што зроблена і Слабоцкім заводам. Таксама слаба ідзе збор паявых: ад 824 кароў, пры 5 руб. паі, трэба было-б сабраць 4120 р., а сабрана 1438 р. 98 к., адкуль не прыпадае нават па 2 р. на адну карову.

Гэтыя лічбы кажуць за тое, што праўленьнем Слабоцкага малочнага таварыства на гэту галіну працы мала зьвернута ўвагі.

Па свайму маемаснаму складу, калі браць за крытэры колькасьць кароў, пайшчыкі падзяляюцца на наступныя групы:

| | | |
|---|---|---|
| аднакароўных . . . . . | 244 | гаспадаркі |
| двухкароўных . . . . . | 222 | „ |
| трохкароўных . . . . | 23 | „ |
| чатырохкароўных . . . | 6 | „ |
| пяцікароўных . . . . . | 3 | „ |

Як бачым, пераважная большасьць пайшчыкаў—беднякі і серадНякі.

Забесьпячэньне пайшчыкаў кармамі наогул ідзе добра. Толькі ня зусім правільна Менакрмалжылсаюз размяркоўвае кармы паміж паасобнымі арцелямі. Саюз адпускае кармы арцелям не па колькасьці ў арцелі пайшчыкаў (гаспадароў) або кароў, а паводле здадзеных арцелямі саюзу малочных прадуктаў. Гэта значыць, што калі ў арцелі каровы горшыя, то яна атрымоўвае менш кармоў, і, наадварот, калі арцель і невялікая, а каровы малакадойныя, то яна параўнаўча атрымоўвае кармоў больш. Выходзіць, што падтрымліваецца кармамі тая карова, якая і бяз гэтых кармоў давала максымальную малакаўдойнасьць.Другі дэфэкт пры такім разьмеркаваньні: арцель атрымоўвае кармы ад саюзу і дзеліць іх паміж пайшчыкамі таксама паводле здадзенага ў арцель малака. Атрымае кармоў больш хто? Бязумоўна, заможнейшы пайшчык—у першую чаргу той, хто мае 4-5 кароў, і зусім нямнога атрымае пайшчыкбядняк, які мае адну карову і якіхнебудзь 7 або і больш членаў сям'і.

Гэты прынцып разьмеркаваньня кармоў саюз, а гэтаксама і арцелі павінны зьмяніць на другі, які-б мог задаволіць у першую чаргу пайшчыкабедняка і яго немалочную карову.

Таксама трэба палічыць за недахоп у кіраўніцтве саюзу тое, што ён сёлета не дазволіў бліжэйшым да ст. Ратамкі арцелям адкрыць там малочную крамку. Гэта, на мой погляд, вялікае ўпушчэньне з боку саюзу, таму што, калі пачаўся сэзон лецішчаў, калі Ратамка (лецішча) пачалася запаўняцца адпачынальнікамі, то ў гэты час у бліжэйшых да Ратамкі арцелях напалову паменшыўся занос малака: усё бліжэйшае да Ратамкі насельніцтва пачало збываць сваё малако ў Ратамцы.

На будучы год саюз павінен якнебудзь гэта пытаньне з Ратамкаю ўрэгуляваць, каб у самы прыліў малака яна не рабіла падрыву ў працы малочных арцеляй.

Ня зьнішчыўшы гэтых недахопаў, Слабоцкі завод, які скора павінен шырока разгарнуць малочную справу, ня будзе мець тае нагрузкі малака, якая яму будзе неабходна.

Садоўскі

# Вынікі прыёму у каапэрацыйны тэхнікум на 1929-30 год

18-га жніўня Беларускі дзяржаўны каапэрацыйны тэхнікум закончыў прыём студэнтаў на 1929-30 навучальны год.

Зараз ужо можна зрабіць вынікі гэтага прыёму, вынікі тае папярэдня-падрыхтоўчае працы, якая была праароблена тэхнікумам і каапэрацыйнымі сыстэмамі ў сувязі з прыёмам.

Перш за ўсё, тэхнікумам вясною разам з Белкаапсаюзам і Белсельсаюзам былі выпрацаваны наступныя грунтоўныя прынцыпы:

1) прымаць на два курсы-на падрыхтоўчы і першы;

2) на падрыхтоўчы—з ведамі за 5 груп сямігодкі і на першы—з ведамі за сямігодку;

3) узрост з 18-25 год;

4) прыём павінен адбывацца па камандыроўках каапэрац. сыстэм, згодна разьмеркаваньня паміж імі месц Наркамасьветы-БКС—40, БСС--35 і Белсампрамсаюзу—5.

На падставе гэтых асноўных прынцыпаў БСС,БКС і Белсампрамсаюзам былі даны паказаньні сваім мясцовым арганізацыям. У гэтых паказаньнях былі вызначаны і спосабы адбору для камандыраваньня, а таксама вызначаны і тыя ўмовы, якім павінны здавальняць камандыроўшчыкі, выходзячы з сацыяльна-маёмаснага складу, грамадзка-каапэрацыйнага стажу іх і інш.

Лічачыся з курыяльнаю сыстэмаю, што існуе сёлета пры камплектаваньні ВНУ і тэхнікумаў БССР, поруч з сыстэмай камандыровак, быў дапушчаны прыём дакумэнтаў і асоб не камандыраваных, на агульных падставах.

У мясцовым і цэнтральным друку своечасова былі зьмешчаны адпаведныя артыкулы, якія растлумачвалі правілы і прынцыпы прыёму ў тэхнікум, а таксама зьмешчаны і правілы прыёму. У выніку ўсіх гэтых мерапрыемстваў, мы мелі надта вялікі наплыў, імкненьне моладзі і практычных працаўнікоў каапэрацыйных сыстэм паступіць у каапэрацыйны тэхнікум на вучобу. Усяго была падана 250 заяў, ня лічачы тых прыблізна 100 заяў, якія ня былі прыняты адразу. З 250 заяў рабочыя падалі 61, батракі—7, выхаванцы дзіцячых дамоў 9, сяляне—85, служачыя—40 і саматужнікі—25 заяў. Па камандыроўках падалі 120, без камандыровак—130 заяў.

З гэтае колькасьці падаўшых прыймовая камісія адабрала 80 асоб-па 40 на кожны курс і 12 кандыдатаў.

Асноўны сьпіс прынятых характарызуецца такімі дадзенымі: мужчын прынята—55, жанчын-25, ці 31,25 проц.

Беларусаў – 55, ці 68,25 проц., яўрэяў—23, ці 29,25 проц., вялікарусаў 1, ці 1,25 проц. і палякаў 1, ці 1,25 проц.

Асобамі іншых нацыянальнасьцяў заяў ня было падана.

Па партыйнасьці: членаў і кандыдатаў КП(б)Б прынята 19,ці 23,75 проц., камсамольцаў 45,ці 56,25 проц. і беспартыйных 16, ці 20 проц. Як відаць з гэтага, партыйна-камсамольская праслойка значная і ў будучым гарантуе нашу ўстаноўку падрыхтоўкі для каапэрац. сыстэм кіраўнічых працаўнікоў нізавога зьвенчаку.

Па сацыяльным становішчы: рабочых прынята 24, ці 30 проц., батракоў 6, ці 7,5 проц., выхаванцаў дзіцячых дамоў 7, ці 8,75 проц. калгасьнікаў—5, ці 6,25 проц., сялян-беднякоў (вызваленых ад падатку) 15,ці 18,75 проц, сялян серадняков (па падатку ад 2 да 10 руб.) 13, ці 16,25 проц., служачых 7, ці 8,75 проц., і саматужнікаў 3,ці 3,75 проц. Значная большасьць з групы рабочых, прынятых у тэхнікум, гэта самі рабочыя, і толькі нязначная частка—дзеці рабочых. Рад рабочых зьяўляецца выйшлымі з буйных прадпрыемстваў беларускае

прамысловасьці, як папяровая фабрыка „Спартак“, завод „Чырвоны Кастрычнік“, гута „Глуша“ і інш.

Што датычыцца сялян, то трэба сказаць, што і група сераднякоў зьяўляецца надта маламоцнай з падаткам да 10 рублёў ня болей.

З служачых прыняты, галоўным чынам, выйшлыя з рабочае і сялянскае сям‘ (бядняцкае) члены партыі з вялікім практычны стажам каапэрацыйнае і грамадзкае працы.

З саматужнікаў прыняты самы бядняцкі элемэнт з самых саматужнікаў.

Цікавае разьмеркаваньне прынятых па сыстэмах. Малюнак тут наступны: спажыўсыстэма камандыравала 32, ці 40 проц., с.-г. сыстэма з калгасьнікамі 24,ці 30 проц. сыстэма Белсампрамкаапэрац. 2,5 проц., і астатнія 22 прыняты на агульных падставах.

З гэтых лічбаў відаць, што ў наліччы як бы недабор па сыстэме с.-г. і саматужнае каапэрацыі. Тлумачыцца гэта тым, што рад с.-г. саюзаў няўважліва падышлі да адбору кандыдатаў, пасылалі ня прыдатных сацыяльна асоб і то са спазьненьнем. Таксама было і з саматужнаю каапэрацыйнаю сыстэмай, што пасылала, галоўным чынам, дзяцей саматужнікаў, якія не адпавядалі прыёму ў тэхнікум нават па ўзросту.

Тэрыторыяльна ў тэхнікум прыняты асобы з розных куткоў БССР. Усе акругі паслалі сваіх прадстаўнікоў у тэхнікум, але надта мала паслалі Полацкая і Мазырская і надзвычайна шмат прыдатных кандыдатаў было прыслана Менскаю, Віцебскаю, Аршанскаю і Магілеўскаю акругамі.

Адукацыя прынятых надта разнаітая ад хатняе амаль да сямёхгодкі на падрыхтоўчы курс і за сямёхгодку на першы. 41 з прынятых працавалі на практычнай каапэрацыйнай працы і 39 не працавалі ў каапэрацыі непасрэдна, але сярод іх вельмі шмат упаўнаважаных і каапэрацыйнага актыву, пасылка якога на вучобу была дадзена месцам як устаноўка.

Сёлета па ўзросту прынятыя больш менш аднародны ўзростам ад 18 да 25 гадоў.

Дзяржаўных стыпэндый арыентыровачна разьмеркавана 48, такім чынам дзяржаўныя стыпэндыі 32 прынятым ня вызначаны.

Маёмаснае становішча прынятых такое, што бяз стыпэндый яны вучыцца ня будуць і ня змогуць. Задача БКС, Белсельсаюзу і Белсампрамсаюзу забясьпечыць пасланых ў тэхнікум каапэрац. стыпэндыямі, якіх па нашаму меркаваньню БКС павінен вызначыць мінімум 17-18, Белсельсаюз-20 і БСПС—мінімум 8 стыпэндый.

Наогул такому добраму складу прынятых у тэхнікум з усіх бакоў павінна быць максымум увагі, максымум увагі і справе пастаноўкі вучобы, падбору спэцыяльнага пэрсаналу і г. д.

Пажадаем жа прынятаму новаму студэнцкаму складу пасьпяховае і шчырае працы.

---

Макар Валацуга

# Па каапэрацыйных ухабах

*(Дарожныя нататкі Макара Валацугі)*

... Я зусім паздаравеў. Мне цяпер ужо і ня холадна і ня горача, так што ўрач мяне выпісаў, кажучы:

— Можаце іці цяпер хоць ува ўсе чатыры бакі.

І мне,—дзіва, што мне хочацца іці! Я да таго прывык хадзіць, што каб на прывязь узяў мяне, дык ня стрымаеш. Прывычка, можна сказаць, гэта ня тое, што пухавіцкія каапэратары. Але што-ж я буду казаць пра пухавіцкіх, калі я не дайшоў да Пухавіч. А як карцела мне, каб пабываць у іх... Адным словам, я пайду і па дарозе абавязкова не праміну. Так што гэй-вы!—грамадзяне, можна сказаць, чакайце дарагога госьця!

І вось я выйшаў з Менску.

Пагода цяпер ня вельмі спрыяе, ведама, як пад восень, але дармавата. Толькі от, каб ізноў не палежаць на вільготнай зямлі, ды каб не прастудзіцца.

Дык я іду і цяперака вельмі асьцярожна, хоць сабе ногі і ныюць ад хады, але я не сядаю на зямлю для адпачынку. Я іду, і каб ня прыслухоўвацца, як ныюць ногі, разважаю пра „пахі“ у Барковіцкай краме, тэй, што на Полаччыне. Я плюю пакрысе, ідучы, і от так і бачу, як рабочыя сьціскаюць свае насы, каб ня нюхаць „паху“.

— Дзіўныя: — гэта-ж бясплатна! Нюхай сабе, хоць і ўвесь вынюхай. Барновічаская крама не пашкадуе,— разважаю я. А „пах“ так і не адыходзіць ад майго нюху. Найбольш, здаецца, пахне селядцамі, капустаю, тоў стым пластом нявыскрабанага натопту.

— Часу няма-ж, адказваюць крамары,— ого, каб быў час, мы-б не папусьцілі дарэмна такога-то...

Ізноў, каб яшчэ больш ня чуць, як дрэнчыць хада мае нагі, ды тым больш пасьля доўгай лежкі у Менску,— я разважаю пра „шпаркую“ вёрткасьць крамара Стойкінскага спажывецкага таварыства, таварыша Мірановіч. Ён прадае тавары. Дык хіба так от і лёгка расстацца з таварам—аддаць таму, хто купіў? І ён не адразу аддае. Перш, пакуль падыйдзе, дык глядзіць на тавар—любуе, потым возьме ў два пальцы—любуе, пасьля гэтага паложыць на прылавак цешыцца, а потым ўжо заверчваючы ў паперу, апошні раз зіркнуўшы, аддае. А чарга тым часам, расьце, расьце і расьце.

— Няхай расьце. Усёроўна-ж продаж да пэўна вызначанае гадзіны. Ды чаго там, куды там вельмі ўжо сьпяшацца, як з козамі на кірмаш.

І ён яшчэ і яшчэ болей не сьпяшаецца.

Дык я цяпер падыходжу да...

— Але хто-ж гэта едзе? Здаецца, знаёмы, нібы? Гм! Дзе-жа гэта я яго бачыў? Гм.—дай-жа ты памяць? А-а, вось хто, вось, вось...

— Як маецеся, вашэцё? ці здаровенькі, ці жывы!—І я падаю Амельковічу руку. Ён таксама падае мне.

— Сядайце,—кажа, дык падвязу.

— А ня шкодзіла-б,—кажу, а то ногі-аж торгаюць! А каб аддыхнуць, дык баюся на вільготнай...

— Дык куды-ж гэта вас бог нясе?— перапыняе старшыня.

— На ўсе чатыры бакі,—кажу я.— Урач мне дазволіў. Так што я цяперака магу ісьці і на адзін бок, і на другі і на трэцці...

— А чаго-ж гэта вы былі ў урача?

І я яму апавядаю, як я нехаця папаў да ўрача.

— Дзіва, што можна прастудзіцца, кажа ён.

— Я аднойчы неяк з таварышам Увішка...

Але я тутака яму перапыняю (нятолькі ён мяне будзе перапыняць, отжа няхай ведае).

— Дык што ў вашэцявых чуваць, пытаюся я.

— Ды каб што выдатнае такое, дык нічога. Калі ня лічыць... хоць яно то і казаць-бы ня варта:

Ой, кажэце, кажэце! Калі ласка, дзіва што, кажэце!

І ён мне кажа, што на яго напісалі ў рэдакцыю „Беларускай Вёскі“, як ён п‘е.

І надрукована?—перапыняю я яго.

— Што вы,—дзівіцца ён,—захацелі, каб яшчэ ды і надрукована! Ого! Досыць таго глупства, што нейкі недавярак напісаў, а вы „надрукована“, „надрукована“! Вы мне, нават і не кажэце пра гэта. О-го! я-ж старшыня Беліцкага, можна сказаць сельсавету. Я, у нас на случчыне, нятое што — абы. Вы, калі ласка, не намякайце!

Ня буду, далібожачка ня буду намякаць,—кажу я, і Амельковіч кажа далей:

— Дык напісаў нехта і падаў, што нібыта я, потым Івішка—старшыня, таксама (толькі што ён Чамвіцкага сельска-гаспадарчага таварыства), потым Бранавіцкі настаўнік, і яшчэ—Дварэцкі каапэратар цэлую ноч пілі запёршыся ў краме? Ну то хто гэтаму дасьць веры? І што вы, можна сказаць, на гэта скажаце? Дык-жа яшчэ мала гэтага—ого! Дык-жа нібыта я і летась піў. І таксама ў краме, і таксама з крамаром. І нібыта цераз тое, што Заброцкі падглядзеў усё гэта,—яго я прыцягнуў

да адказнасьці—чулі? Ну то што вы яшчэ цяпер скажаце на гэта?

Ну то што я мог сказаць.

А ён:

— Дык і яшчэ-ж ня ўсё. Слухайце, слухайце:—нібыта мы пілі ад рук заможнікаў. Нібыта, каб я дапамог ім, як было праходзіла земляўпарадкоўваньне. Ой, чаго не напішуць цяперашнія пісакі, каб ім скуру...

— Дзіва, што напішуць,—кажу я, найбольш цяперашнім сьветам.

І мы пад'яжджаем да паваротні.

— Мне сюды,—паказваю я ў бок Мазыршчыны.

— А мне проста, адказвае ён.

— Паедзьце здаровенькі,—кажу я.

— Пайдзьце здаровенькі, таксама,—кажа ён.

І я іду.

Калі выходзіў я з Менску, мне Белкаапсаюз даручыў, каб я, швэндаючыся, вярбаваў пайшчыкаў. Дык я от цяпер іду і разважаю, каго-б тут завярбаваць?—Мо' каб Нова-Барысаўскаму спажывецкаму таварыству дапамагчы вярбаваць? Не без таго, я таксама, як і Нова Барысоўскае праўленьне, хацеў-бы, каб сядзець на адным месцы, ды з гатовага фонду „вярбаваць"—закладаць, уцягваць, рабіць большы лік пайшчыкаў. Тым больш, калі мне ногі баляць. І нават, я таксама згадзіўся-б, абы каго ўцягваць ў пайшчыкі. Што гэта ня ўсё роўна? Чалавек, кулак ці бядняк—і другому і першаму ўсёроўна жыць хочацца. Але ж у мяне нямаш фонду, так што я ня ведаю.

А мо', каб дзесяць гаспадароў, вёсак Бабунічы і Барычава завярбаваць? Бо на ўрачыстым сходзе Чырвонага дню, бабунічанцы, што на Пятрыкоўшчыне, пастанову вынесьлі, каб нічога не даваць з крамы гэтым гаспадарам, пакуль яны ня ўступяць ў пайшчыкі. Дык мне аж шкода іх. Канешна, каб у іх, у гэтых гаспадароў, ня было, з чаго ўкласьці пай, я больш бы іх яшчэ шкадаваў, а так...

Дык я ня ведаю, каму дапамагаць? Бо Восіпавіцкае спажывецкае таварыства на Бабруйшчыне таксама хоча, каб я прышоў, каб дапамог у вярбоўцы. Дык ў іх-жа ёсьць з чаго. Дык гэтакім добра вось і дапамагаць. Ім Акрсаюз даў на гэтую вярбоўку—каапэраваньне гэтае самае—254 руб.

— Наце вам,—сазаў Акрсаюз,—вярбуйце, сабе.

Дык яны ось і аж дагэтуль мяне ўсё чакаюць. Дык мусіць трэба будзе пацыйці. Хаця то яно, канешне, далекавата. І можна сказаць не па дарозе, але... Там прыдзецца пагаманіць, за адным заходам з крамаром Дзераўцоскага аддзяленьня. У яго нейкае тамака з дзевяцьцюстамі рублямі непаразуменьне. Кажуць, нібыта ён іх сьцібрыў. А ён, нібыта кажа, што яны так нейдзе закінуліся. Кажа, нібыта, ды і служыць сабе ў краме памаленьку. Таксама і з крамаром Вязаўскага аддзяленьня прыдзецца пагутарыць. На яго небараку дык кладуць віну—нібыта ён кулацкі падпявала. Тое, што гарэлкі у Восіпавіцкім таварыстве прадаецца, абы тваё здароўе стрывала, дык аб гэтым нямаш аніякай нават гавэнды.

— На тое-ж яна зроблена, каб прадавацца,—кажуць каапэратары.— А раз гэта так, то чаму і не трымаць яе да адвалу? А мо' часамі чалавек будзе млець ці што?—Так што тут ўсё наконт гэтага прадугледжана. Лепш няхай сабе будзе недахоп у другіх таварах, калі што якое... Дык вось не вядома, ці праўда гэта, што носяцца такія чуткі. Дык мусіць лепей трэба будзе зайці да Восіпавіцкага таварыства, чымся да Нова-Барысаўскага.

І я накіроўваюся усё-ж-ткі да...

— Ага, чуць не забыўся: а мо', каб па дарозе зайці да Копыскага спажывецкага таварыства?—Хаця, бязумоўна, Аршаншчына з боку мне застаецца. Там нібыта сельска-гаспадарчыя прадукты прадаюцца папсутымі. Лепш кажучы не папсутымі, а яшчэ толькі пачатымі псавацца.

Адным словам, трэба будзе зайці пацікавіцца як-небудзь.

І я іду сабе павольна, насьвістваючы.

# КААПЭРАЦЫЯ ЗА МЯЖОЮ

Карл Пятровіч

## Праз банкруцтва да блёку сельска-гаспадарчых каапэратываў у Нямеччыне

Яшчэ перад сусьветнаю вайною сельска-гаспадарчы каапэрацыйны рух Нямеччыны перажываў неаднакроць цяжкія грашовыя крызісы. „Генэрал Фэрбанд“ у 1904 і 1909 г. г. панёс вялікія страты, і банк Рэйхсфэрбанда ў 1911 годзе стаяў перад поўным разбурэньнем.

Лёгкадумнае гаспадараньне і дрэнная адміністрацыя разбазарылі сялянскія грошы.

Яшчэ ў большай ступені гэтае адмоўнае гаспадараньне выявілася ў каапэрацыі пасьля вайны. Першае месца тут займае „генэрал Фэрбанд“, справы якога былі даведзены да нячуванага банкруцтва. Пры ўласным капітале ў 20 мільёнаў марак была атрымана фантастычная сума страт у 60-70 мільёнаў марак, у якіх расейскі белагвардзеец Уральцаў удзельнічаў з 21 мільёнам.

Каапэрацыйна-беднае нямецкае сялянства, якое не зьяўляецца кіраўніком сельскае гаспадаркі ў каапэрацыйным руху, панесла вялікую страту. Сялянскай каапэрацыйнай самадапамозе быў нанесен цяжкі ўдар.

Ужо цяпер можна гаварыць, што створаны сельска-гаспадарчы каапэрацыйны блёк будзе мець тры вынікі найвялікшага значэньня:

1. З дробнасялянскім каапэратывам „Самадапамога“ скончана. Кіруемы буйна-аграрнымі інтарэсамі Райхнайзенскі рух, як і другія каапэратывы, ішлі такім шляхам, які нічога ня меў простага з інтарэсамі сялянства. Разам са сваімі гарантыйнымі сумамі сялянскія членскія масы страцілі і рэшту свайго ўплыву і самавызначэньня. Адзіныя каапэратывы, якія падпарадкоўваюцца дзяржаўнаму рэгуляваньню апалітычна-дыктатуры буйна-аграрнага „Ляндбунду“.

2. Уцягненьне ў палітыку сельска-гаспадарчых каапэратываў—другі вынік гэтага аб'яднаньня. Рэакцыйны „Рэйхсляндбунд“ узяў верх над рэнтавым банкам. Ужо многа год, як ён імкнуўся забраць у свае рукі сельска-гаспадарчыя каапэратывы, бачачы ў іх крыніцу прыбытку.

Нават нямецкі „Фоксвірт“ павінен быў прызнаць, што хутка ад многа хвалёнага „палітычнага нэўтралітэту“ у сялянскай каапэрацыі нічога не стане.

3. У самае дрэннае становішча новы час паставіў гарадзкога спажыўца-пралетара, які лёзунг—„Больш прыбытку“ павінен будзе аплачваць больш высокімі цэнамі. Замест таго, каб у каапэратыве мець месца, дзе былі-б суадносіны паміж інтарэсамі спажыўца і прадуцэнта, ён стане крыніцаю выцісканьня прыбыткаў ад спажыўца. Разам з вялікімі цэнамі прамысловых карцеляў, стане палітыка „максымальных цэн“ новага карцелю сельска-гаспадарчага каапэратыву. Новыя адзіныя каапэрацыйныя таварыствы папалі ў сфэру буйна-аграрнае палітыкі „дыктатуры цэн“.

**Трэцяя пазыка індустрыялізацыі дасьць магчымасьць з перамогаю скончыць другі год пяцёхгодкі**

# БІБЛІОГРАФІЯ

**М. Савіцкі і П. Трус—„Вапнаваньне глебы“. Беларускае Дзяржаўнае Выдавецтва, Менск 1929 г., стар. 29,** *цана 5 к.*

Кніжка Савіцкага і Труса асабліва на сёньняшні дзень зьяўляецца вельмі важнай. Трэба сказаць, што і да гэтага часу ў нас з сельска-гаспадарчай літаратурай справа абстаіць вельмі дрэнна. На кніжным рынку калі і можна знайсьці некаторыя працы па пытаньнях сельскае гаспадаркі, дык у большай меры яны зроблены так, „наогул“ і „вабчэ“. Што-ж датычыць вывучэньня асобных канкрэтных галін вядзеньня сельскае гаспадаркі і выданьня такіх прац на мове, што змаглі-б зразумець шырокія колы сялянства, дык і на сёньня мы тут маем амаль што зусім гладкае месца. Рэцэнзуемая кніжка ў даным выпадку зьяўляецца выключэньнем.

Калі цяпер на Беларусі мы і маем шэраг навукова дасьледчых установ, дзе сельскагаспадарчая навука стаіць на высокім узроўні, то, аднак, гэтыя вялікія дасягненьні і па сёньняшні дзень застаюцца нявыкарыстанымі. Якая да гэтага прычына, цяжка сказаць, але такое становішча хутчэй трэба ставіць у віну нашым выдавецтвам, чымся навукова-дасьледчым установам.

Пытаньне ўздыму ўраджайнасьці і разьвіцьця вытворчасьці сельскае-гаспадаркі ў сучасны момант вырасла ў задачу першачарговае значнасьці, і ў працы ўсіх нашых арганізацый займае вялікае месца. Аднак, пасьпяховасьць вырашэньня гэтае праблемы галоўным чынам залежыць ад таго, наколькі сюды будуць прыцягнуты шырокія колы бядняцкага і серадняцкага сялянства. Вялікая роля ў гэтым нашага друку, выданьне папулярнае літаратуры разьлічанае на шырокія колы мас, будуць дапамагаць справе.

Рэцэнзуемая кніжка падае практычны матар'ял па пытаньню вапнаваньня глебы. Ва ўмовах сельскае-гаспадаркі Беларусі вапнаваньне глебы, як відаць з кніжкі, набывае вялікі эфэкт. Нашымі дасьледчымі ўстановамі навукова даведзена, што ў сярэднім вапнаваньне падвышае прыбытак з аднаго гэктара на 70—80 руб. Прыняты пад увагу сярэдні ўраджай з гэктару у сучасны момант, у выніку вапнаваньня, нашы палеткі павялічаць прыбытковасьць больш чымся у два разы.

Савет Народных Камісараў Беларусі ў аднэй з сваіх пастаноў па сельскай гаспадарцы кажа, што гэтую працу (па вапнаваньню глебы) трэба распачаць з бягучага году і праводзіць яе так, каб да канца пяцігодкі мець завапнаваную плошчу ня менш 750 т. гэктараў. Кожнаму ясна, што нават і пастанова СНК з такою нязначнаю лічбаю, вызначанаю для вапнаваньня, як 750 т. гэктараў, зможа застацца толькі пастановаю, калі шырокія сялянскія колы ня будуць ведаць аб тым, як практычна вапнаваць глебу.

Кніжка Савіцкага і Труса як раз і дае адказы на ўсе пытаньні, зьвязаныя з вапнаваньнем: які рэальны прыбытак ад вапнаваньня, на якіх глебах трэба ўжываць вапнаваньне, пад якія культуры, пераапрацоўка вапны на ўгнаеньне, як вапнаваць глебу, колькі трэба вапны на адзін гэктар, як праводзіць вапнаваньне балот і сенажацяй і шэраг іншых пытаньняў.

Усяго каштуе кніжка 5 кап. Напісана яна мовай, зразумелай кожнаму нават малапісьменнаму селяніну. Пералічанае падвойвае дадатнасьць і практычную каштоўнасьць выданае працы. Такое літаратуры трэба выдаваць больш і больш. **М. Домніч**

---

**„Шляхі калектывізацыі“. Выдавецтва Наркамзему, Белкалгассаюзу і Белсельсаюзу, № 1, ліпень 1929 года стар. 58** *цана 20 кап.*

У замен ранейшага часопісу „Плуг“ вышаў з друку першы нумар часопісу „Шляхі калектывізацыі“. Гэты часопіс, не парушаючы тых разьдзелаў, якія зьмяшчаў у сабе „Плуг“, дае яшчэ шмат кіраўнічага, практычнага і тэарытычнага матар'ялу па калектывізацыі сель-гаспадаркі, па паднярцы яе ўраджайнаньці, па разьвіцьці лясное гаспадаркі і садоўніцтва.

Часопіс зьмяшчае ў сабе наступныя аддзелы: калгаснае будаўніцтва, палявая гаспадарка, сялянскія досьледы, лясная гаспадарка, садоўніцтва, афіцыйны аддзел і хроніка.

Найбольшае месца ў часопісе займае аддзел калгаснага будаўніцтва. У ім зьмешчана 10 тэарытычных і практычных артыкулаў, якія паводле свайго зьместу зьяўляюцца каштоўным матар'ялам як для кіраўнічых органаў у сельгаспадарцы, так і для кожнага калгасьніка і паасобнага селяніна.

Ня менш каштоўнае значэньне маюць артыкулы і другіх аддзелаў. Усе яны складзены на падставе вопыту і практыкі і па свайму папулярнаму складу могуць быць даступны кожнаму працаўніку сельгаспадаркі.

Адно трэба заўважыць, што ў часопісе няма аддзелу, у якім мог бы прыняць шырокі ўдзел наш селькор, калгасьнік, селянін, і дзе-б высьвятляліся хібы, безгаспадарчасьць нашых некаторых калектыўных

работнікаў,а гэтаксама дзе-б праз нізы вялася барацьба з розн..га сорту шкоднікамі калгаснага будаўніцтва. Пажадана, каб такі аддзел у наступных нумарох быў уведзены, напрыклад, у тэй форме, як гэта ёсьць у другіх нашых калектыўных часопісах—у форме сатыры.

Гэтаксама у далейшым рэдкалегіі „Шляху Калектывізацыі" неабходна зьвярнуць увагу на карэктарскі бок часопісу: заўважваюцца памылкі.

Наогул, часопіс зьяўляецца вялікім дапаможнікам у разьвіцьці сель-гаспадаркі. Яго павінен выпісваць кожны грамадзкі працаўнік, а асабліва, які зараз непасрэдна зьвязан з працаю сель-гаспадаркі.

К—і

---

**Зборнік—„Барацьба з дзіцячай бяспрытульнасьцю ў БССР". Выданьне Цэнтральнай Дзіцячай Камісіі пры ЦВК БССР. Менск 1929 г., старонак—52.**

Ня гледзячы, што праца па барацьбе з бяспрытульнасьцю зьяўляецца аднэй з прац, што дапамагаюць нашаму сацыялістычнаму будаўніцтву, і што вакол яе арганізавана наша савецкая грамадзкасьць, аднак яна мае шэраг недахопаў. Зборнік „Барацьба з дзіцячай бяспрытульнасьцю ў БССР" падае больш-менш поўны малюнак становішча ў галіне барацьбы з бяспрытульнасьцю. Да гэтага часу па вызначанаму пытаньню мы ня мелі ня то што лепшай і больш поўнай літаратуры, а мы ня мелі і такой.

Амаль што цалком увесь зборнік прысьвячоны асьвятленьню дзейнасьці нашых арганізацый за гады рэвалюцыі ў справе барацьбы з бяспрытульнасьцю. Праароблена вялікая праца; зборнік адлюстроўвае шэраг дасягненьняў. Аднак усё гэта толькі нязначая частка вялікае праробленае працы і вызначэньня таго, што яшчэ ня зроблена. Недахопы працы знаходзілі сваё выражэньне ня толькі ў нездавальняючай пастанэўцы працы некаторымі з устаноў, якія непасрэдна заняты паказанай працай, а і ў тым, што ўся вялікая праца мала адлюстроўвалася на старонках нашага друку.

Значная частка зборніку (18 старонак) прысьвячона асьвятленьню пастаноўкі пытаньня барацьбы з бяспрытульнасьцю на паседжаньні прэзыд. ЦВК (даклад аб дзейнасьці Цэнтральнай Дзіцячай Камісіі, спрэчкі па дакладу і пастанова прэзыдыуму). У дакладзе камісіі і спрэчках увага, галоўным чынам, накіравана на асьвятленьне становішча з бяспрытульнымі і задачы, што выцякаюць адгэтуль.

Другая палова зборніку ў кароткіх рысах падае малюнак працы барацьбы з бяспрытульнасьцю па асобных акругах Беларусі. Цікавы і каштоўны артыкул—„Об'ективное изучение беспризорного ребенка в системе мер борьбы с беспризорностью" (Цэнтральны Дзіцячы Дасьледчы Габінэт пры НКЗ Бел), з навукова-дасьледчага пункту погляду, тлумачыць праблему бяспрытульнасьці і тыя недахопы, што мелі месца ў вырашэньні яе.

Матар'ял зборніку скампіляваны досыць удала. Тэхнічна выдадзены зборнік ня дрэнна. Добра адлюстраваны. Апошняе больш прывабляе чытача і надае зьмешчанаму матар'ялу жывасьці. Ня зусім добра, што матар'ял пададзены ў вельмі скарочаным выглядзе. Зусім дрэнна, што калі ўвесь зборнік надрукаваны на беларускай мове, дык артыкул з Цэнтр. Дзіцяч. Дасьледч. Габінэту дадзены чамусьці на расейскай мове.

Аўтаном **Перасьветаў.**

---



*Рэдактар—РЭДАКЦЫЙНАЯ КАЛЕГІЯ*

*Выдавец—Каапцэнтры БССР, Белсельбанк і Ўсекабанк*

Кожны каапэратыў, кожная крама і каапэрацыйная адзінка, кожны каапэрацыйны актывіст і кожны пайшчык

АБАВЯЗКОВА ПАВІННЫ МЕЦЬ СВАЮ ЧАСОПІСЬ

# „КААПЭРАЦЫЯ БССР"

## ПАДПІСВАЙЦЕСЯ

на сваю двухтыднёвую часопісь!

**УМОВЫ ПАДПІСКІ:**

| | |
|---|---|
| **На 1 мес. — р. 50 к.** | **На 6 мес. 2 р. 80 к.** |
| **На 3 мес. 1 р. 40 к.** | **На 12 мес. 5 р. 40 к.** |

Падпіска на «КААПЭРАЦЫЮ БССР» прымаецца ва ўсіх каапэрацыйных арганізацыях, усімі інструктарамі, а таксама паштовымі ўстановамі Беларусі

Рэдакцыя: МЕНСК, Савецкая, 43.

Бяг. рах. ва Ўсекабанку № 797.